ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 27 (2489)
ПЯТНІЦА
3
красавіка 1970 г.
Цена 8 кап.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР



**Гэта — рабочая мадэль, на падставе якой будзе стварацца помнік Янку Купалу. Пройдзе час і постаць вялікага песняра Беларусі, адлітая з бронзы, узнімецца ў самым прыгожым скверы сталіцы. Навокал будзе ціха шапацець лісце... Звінець раўчук... Цудоўная папараць-кветка — сімвал шчасця народнага — раскрыецца побач з помнікам. І заўсёды тут будзе шмат людзей. Людзей, у сэрцах якіх жыве і заўсёды будзе жыць Купала.**

Інтэрв'ю з аўтарамі праекта помніка Я. Купалу чытайце на трэцяй старонцы.

# ПОШУК ДАЎЖЫНЁЮ Ў ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ



**Ленінская тэма на сцэне... Якую вялікую адказнасць ускладае яна на тэатр, якой велізарнай эмацыянальнай сілай павінна валодаць, які высокі інтэлектуальны зарад несці ў кожным спектаклі!..**

**Артыкул, які друкуецца ніжэй, — гэта роздум аб пошуках найбольш правільнага ўвасаблення ў тэатрах ленінскага вобраза, тэмы правадыра, рэвалюцыі, партыі.**

**Дзеліцца гэтым роздумам галоўны рэжысёр Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі.**

## С. КАЗІМІРОЎСКІ

— НОВЫ чалавечы тып будзе стварацца павольна, і не толькі ў адпаведнасці з нашымі разумнымі кніжачкамі, а самім жыццём, перш-наперш яго матэрыяльнымі сіламі...

Словы падаюць у залу важка. Нібы мы прысутнічаем пры іх нараджэнні, як той высновы, да якой прыходзяць не адразу, не раптоўна. Чалавек думае ўголас— і гэта вынік перажытага і абдуманага ім.

Гэты чалавек — Фёдар Шмакаў. Ён сыходзіць са сцэны, трошкі стомлены, каржакаваты, такі, якім мы ведаем яго ў паўсядзённым жыцці. Не, не зусім такім. Ён толькі што скончыў рэпетыцыю. Яму даручана роля Уладзіміра Ільіча Леніна ў нашым спектаклі «Трэцяя патэтычная» па п'есе М. Пагодзіна. Па вачах яго бачым: акцёр у думках яшчэ захоплены вобразам, яшчэ нясе ў душы той настрой трапяткога і напружанага шукання, якім быў апантаны на сцэне, у якое заглыбіўся ўсёй істотай. Я разумею яго трывогу, прыхаваную ім даволі ўмела, — яна ёсць. І ўсе мы трывожымся— ці здолеем стварыць спектакль, дзе ў кожную секунду, у кожнае імгненне будзе, як дыханне або пульс сэрца, унесена жывое жыццё чалавечага духу. Вобраз Леніна — у цэнтры твора. І самая першая і галоўная адказнасць—на ім, на Фёдары Шмакаве, выканаўцы ролі правадыра.

Мы з асістэнтам сядзім за рэжысёрскім столікам і моўчкі глядзім на акцёра. Можа, і не варта цяпер яго спыняць і нешта абмяркоўваць. Бо штосьці сёння ён знайшоў. Ах, каб гэта ўвайшло ў яго эмацыянальную памяць, каб не расплёскалася тое ўнутрана-рытмічнае напаўненне тэксту, якое перадалося нам у часе рэпетыцыі! А можа, мы памыляемся. Можа, гэта толькі здаецца, што сёння было нешта дзівосна-новае: бывае ж, што мы, людзі тэатра, бачым і ўспрымаем штосьці, адчуваем тое цудоўнае ў мастацтве «трошкі», што называецца адкрыццём, а там, у зале, людзі нічога не заўважаюць... Не, і па асістэнце здагадваюся: было тое «штосьці», было тое «трошкі» ад сапраўды высокага акцёрскага прасвятлення. Я правяраю самога сябе — няўжо мяне магло ўсхваляваць тое, чаго не было ў артыста? Не, такога са мной, дзякуй богу, пакуль што, здаецца, не было. І мы глядзім услед Фёдару Шмакаву з добрай павагай...

Спадзяванні... Ах, як гэта многа бярэ ад сэрца мастака — чаканне прэм'еры, адкрыцця заслоны! Асабліва, калі мы выступаем з такімі маштабнымі, па-грамадзянску адказнымі творамі, дзе тэма не можа выратаваць без яе эстэтычна-бездакорнага рэальнага ўвасаблення. Ну, можа, я перабольшыў, сказаўшы «бездакорнае» — у мастацтве такое дасягаецца не часта. За трыццаць гадоў працы ў галіне тэатральнай рэжысуры я і ставіў, і глядзеў многа спектакляў з вобразам У. І. Леніна. Мікалай Дубінскі ў Краснаярску, Пётр Дубаўцоў у Алма-Аце, Юрый Каюраў у Саратаве — з імі сустракаўся ў рабочым кантакце. Цяпер сустрэў аднаго з тых, хто ўпісвае новыя старонкі ў беларускую тэатральную Ленініяну.

Якія гэта розныя мастакі — па тэмпераменце, па меры імкнення да знешняга падабенства, па выбары акцэнтаў і па рытмічных малюнках вобраза. І ўсё ж цяпер для мяне Ленініяна без гэтых выканаўцаў не можа існаваць. Іх вопыт для мяне блізкі і зразумелы па ўнутранай рэжысёрскай сувязі з акцёрамі. Канечне, я бязмерна цаню Б. Шчукіна і М. Штрауха, К. Скарабагатава і Б. Смірнова... Але тут ёсць пэўная адлегласць — яны для мяне выканаўцы, якіх я глядзеў «збоку», а не як удзельнік і сааўтар спектакля. Яны далі нашаму мастацтву найкаштоўнейшы вопыт. Іх творчасць — гэта, калі хочаце, лабараторыя творчага асэнсавання ўсіх задач, якія вынікаюць з надзвычай складаных праблем увасаблення вобраза Леніна. Наўрад ці трэба характарызаваць кожнага з толькі што названых акцёраў і зробленае імі — пра гэта напісана багата. Заўважу толькі, што, беручы для пастаноўкі твор пра рэвалюцыю і яе правадыра, мабыць, ніхто з нас, рэжысёраў, ужо не абыдзецца без таго, каб яшчэ і яшчэ раз не вярнуцца ў думках да таго, што яны далі драматычнай сцэне і кінамастацтву.

А ШТО Ж галоўнае ў гэтым? Я перакананы, што першыя і лепшыя выканаўцы ролі У. І. Леніна даводзяць адну — вельмі важную і нават генеральную! — думку: такую ролю можна даручаць толькі артысту, які з'яўляецца не толькі майстрам сцэны, але і яркай, багатай асобай-грамадзянінам. Ён павінен быць і дасведчаным працаўніком — умець паглыбіцца ў працу, засяродзіць сваю волю і імпэт, каб хоць у некаторай меры дацягнуцца да ўзроўню ленінскага мыслення і дзелавітасці, да маральнай чысціні і ваяўнічай гуманнасці самага чалавечнага з людзей, простага, як праўда, — Леніна. Падкрэсліваю — хоць у некаторай меры. Не дэманстраваць сваю здольнасць прымаць адпаведныя позы і перадаваць асобныя інтанацыі голасу — відаць, такое ўменне павінна быць неад'емным у арсенале артыстычнага майстэрства. Сёння глядач і мы, людзі тэатра, прад'яўляем да выканаўцы ролі Леніна больш высокія патрабаванні. І К. Станіслаўскі яшчэ, заўважу, бачыў вялікае шчасце артыста ў тым, што ён мае магчымасць «дацягвацца да геніяў літаратуры». Сапраўды, у такім творчым працэсе акцёрскага «дацягвання» да ідэалу ёсць штосьці надзвычай прывабнае і непаўторнае. Больш таго, мы ж ведаем, як рэдка яшчэ выканаўцы роляў дасягаюць належнай мастацкай вышыні, іграючы ролі ў творах Шэкспіра, Дастаеўскага, Талстога... Самыя таленавітыя і тыя толькі запальваюць наша творчае ўяўленне аб вобразах, створаных геніямі літаратуры! Яны даюць штрыхі, абрысы персанажаў, клічуць да таго, каб мы перажывалі разам з героямі, не гарантуючы, што сыграны персанаж — якраз той і такі, што паўстае са старонак вялікай літаратуры.

Пра гэта міжволі думаем, прыступаючы да пастаноўкі гісторыка-рэвалюцыйнай п'есы з вобразам У. І. Леніна. Не пра якасць драматургічнага матэрыялу — тут п'еса можа быць больш або менш дасканалай з пункту гледжання літаратуры, — а пра сутнасць адлюстраваных драматургам падзей і герояў. Бо для мастацтва гэтыя падзеі і героі і сапраўды невычэрпныя. Нават адзін дзень жыцця Леніна наўрад ці можа быць паказаны ва ўсіх праявах і сувязях у адным фільме або спектаклі. Адзін дзень! Безліч праблем, пытанняў, спрэчак-палемік, абмеркаванняў, праца вучонага, дыпламата, ваеннага кіраўніка, прапагандыста, філосафа і практыка рэвалюцыі... А на экране ці на сцэне ўсё гэта трэба ўмясціць у тры гадзіны часу, не больш.

ЯШЧЭ і такі бок справы. Канечне, без надзейнага ў творчых адносінах артыста, здольнага ўзняцца на ўзровень задачы ўвасаблення вобраза правадыра, тэатр не мае права і думаць аб тым, што спектакль «атрымаецца», «адбудзецца». Праўда, бывае, што мы з пэўнай павагай ставімся да тэатра за тое, што ў яго знайшлася дзёрзкасць творчага парадку, і даруем яўныя недахопы— толькі такія спектаклі трымаюцца ў рэпертуары нядоўга. Каб поспех быў трывалы і грунтоўны, калектыў абавязаны мець багатую на творчыя індывідуальнасці трупу. Палітычна і эстэтычна сталы ў сваім творчым развіцці склад артыстаў, здольных яшчэ і працаваць не па-будзённаму дзяжурна (як кажуць, толькі «прафесіянальна»), а зрабіўшы гэты спектакль школай ідэйна-мастацкага выхавання і яднання калектыву. Гэта датычыць не толькі тых, хто выходзіць на сцэну, ад дырэкцыі да білецёра — усе абавязаны мабілізавацца на вырашэнне, я сказаў бы, унікальнай задачы.

Мабыць, мяне не палічаць за хвалька, калі я скажу, што другі рэспубліканскі беларускі драматычны тэатр — тэатр імя Якуба Коласа — мае такую трупу. Падставы для такога сцвярджэння даюць спектаклі, у якіх мы ўжо не адзін раз у апошнія гады правяралі сваю здольнасць так мабілізавацца і так засяроджваць свае сілы — драматургія К. Чорнага і У. Маякоўскага, спектакль паводле рамана А. Адамовіча і драма Л. Талстога «Улада цемры», шылераўская «Марыя Сцюарт» і «Зыкавы» М. Горкага... Маштабнасць творчых праблем, якія мы кожны раз вырашалі, ставячы гэтыя творы, пераконвала нас у тым, што калектыў мае вялікія творчыя рэзервы і здольны захапляцца глыбіннымі сцэнічнымі задачамі. Што ж, выходзіць, я свайму тэатру складаю панегірык? Не, наш калектыў заўсёды цвяроза ацэньвае зробленае і не ашуквае сябе «індульгенцыямі» — не ўсё даведзена да таго ўзроўню, якога меркавалася дасягнуць. Працаваць нам яшчэ і працаваць над удасканаленнем акцёрскага майстэрства, над ансамблевым выкананнем п'ес, над рэжысёрскай культурай і адзінствам усіх кампанентаў! І ўсё ж бяру на сябе смеласць сказаць, што коласаўцы пацвердзілі ў названых работах рэпутацыю сапраўды творчага ансамбля аднадумцаў, здольнага на многае ў мастацтве.

Таму тэатр і ўзяў на сябе пачэсны і адказны абавязак — пасля цікавага і яркага спектакля на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску паказаць да ленінскага юбілею трэцюю, заключную частку пагодзінскай трылогіі пра правадыра рэвалюцыі — «Трэцюю патэтычную».

ДРУГІ БДТ, як раней называўся наш тэатр, быў пачынальнікам беларускай сцэнічнай Ленініяны. Пра гэта многа пісалі тэатральная крытыка і мемуарысты, і мне, відаць, спыняцца падрабязна на гэтым факце няма патрэбы — чытачы ведаюць, як усё тады, 6 лістапада 1938 года, адбывалася на спектаклі «Чалавек з ружжом». І хоць водгук пісьменніка Э. Самуйлёнка на тую падзею, надрукаваны ў свой час на старонках «Звязды», цытаваўся, дазволю сабе спаслацца на яго яшчэ раз.

Упершыню на беларускай сцэне — Ленін. Той эпізод, дзе ён ідзе па калідоры Смольнага і сустракае салдата Шадрына. «...Быццам электрычны ток пранікае ў залу. Шум апладысментаў доўга не дае пачаць маналог акцёру Малчанаву. Зразумела, было б памылковым лічыць гэтыя апладысменты накіраванымі ў адрас акцёра. Глядач сустракае вялікага Леніна, ён бачыць яго жывога, такім, якім жыве ў сэрцы народа гэты неўміручы вобраз. Апладысменты сціхаюць. Цяпер пачынаюцца першыя словы... Тут няма акцёра. Тут семнаццаты год».



Гэты здымак зроблены на рэпетыцыі спектакля «Трэцяя патэтычная» ў тэатры імя Якуба Коласа. У пастаноўшчыка спектакля С. Казіміроўскага (стаіць на першым плане другі справа) узнікла цікавая гаворка з народнымі артыстамі БССР Ф. Шмакавым (сядзіць злева) і А. Трусам (справа).
Фота Ул. КРУКА.

З гэтым водгукам усе, хто бачыў спектакль, згаджаюцца, хоць пісьменнік, на маю думку, дарэмна выключае значэнне акцёра і тэатра наогул. Павел Малчанаў быў пераканаўчы тады і партрэтна, і па ўнутранай дынаміцы вобраза, а агульны настрой, створаны ўсімі ўдзельнікамі спектакля «Чалавек з ружжом», садзейнічаў такому ўспрыняццю Леніна гледачом. Але справядліва сказана, што тады публіка ў тэатры перш-наперш зварала сцэну са сваім уяўленнем аб правадыры, якое складалася ў яе на працягу многіх гадоў па іконаграфічным матэрыяле і па кніжках. «Падобны ці не?»— такім было першае эмацыянальнае пытанне тагачаснай аўдыторыі. І ўжо тое, што зала на прэм'еры «Чалавека з ружжом» у Другім БДТ аднадушна прызнала — «падобны!» — бясспрэчная заслуга акцёра і ансамбля выканаўцаў, якія, паўтараю, таксама рыхтуюць гледача да сустрэчы з артыстам, што выступае ў галоўнай ролі.

Вопыт, здабыты тады, застаецца ў арсенале трупы. Творчае дасягненне П. Малчанава і дагэтуль вывучаецца тэатрам заўжды, калі ў рэпертуар уключаецца п'еса з драматургічнай Ленініяны. Больш як трыццаць гадоў прайшло з той пары, і коласаўцы маюць у сваім актыве цікавыя і яркія работы ў гэтым напрамку — вопыт трупы ўзбагаціўся працай над «Сям'ёй» І. Папова, «Імем рэвалюцыі» М. Шатрова, «Святлом з Усходу» П. Глебкі, «Вечнай крыніцай» Д. Зорына. А на юбілейнай афішы тэатра імя Я. Коласа да 50-годдзя Савецкай улады з'явілася яшчэ адна назва — «Шостае ліпеня» М. Шатрова.

Калі прасачыць за працэсам драматургічнага абнаўлення прыёмаў і метадаў раскрыцця падзей рэвалюцыі і вобраза Леніна, трэба адзначыць наступнае. П'есы набываюць усё больш выразны дакументальны характар. Гэта заканамерна. Але мушу сказаць, што дакументальнасць сама па сабе не з'яўляецца нечым супрацьлеглым драме мастацкай. Бо элемент адбору ёсць і ў тых творах, дзе драматург, здаецца, абапіраецца толькі на архіўныя стэнаграмы, дакументы, мемуарныя звесткі і г. д. Ён прыводзіць факты ў пэўную сістэму, персаніфіцыруе ў вобразы, а тут трэба захоўваць тую ж, што і ў чыста мастацкім творы, праўду псіхалагічную, праўду характараў дзеючых асоб, будаваць сюжэтную плынь. А так званая мастацкая драма грунтуецца ўсё ж на рэаліях сапраўднага жыцця, часта зыходзіць з таго, што падказваюць аўтару вядомыя прататыпы.

# МАСТЫ ДА СЭРЦАЎ УКРАІНЦАЎ

За пяцьдзесят два гады Савецкай улады на Украіне выйшла 120 кніг беларускіх пісьменнікаў агульным тыражом больш чатырох мільёнаў экземпляраў. Лічбы самі па сабе ўнушальныя. Але чым вымераць тое пачуццё асалоды, радасці, той зарад бадзёрасці, энергіі, веліч тых думак, ідэй, якія прынесла беларуская кніга шахцёрам Данбаса, хлебаробам Палтаўшчыны, карпацкім лесарубам!..

Беларуская паэзія ішла на спатканне з украінскім чытачом занадта памалу, завельмі нерашуча.

Становішча пачало мяняцца толькі недзе з пачатку 60-х гадоў. У гэты час у Кіеве, Львове і некаторых іншых гарадах арганізуюцца тэматычныя вечары маладой беларускай паэзіі. Часопісы «Дніпро», «Жовтень», іншыя перыядычныя выданні публікуюць падборкі перакладаў вершаў беларускай творчай моладзі.

Склалася так, што ўкраінскаму чытачу сёння лепш вядома беларуская паэзія, чым проза або драматургія. Хутчэй за ўсё гэта можна вытлумачыць тым, што ў самой беларускай літаратуры паэзія доўгі час займала (і хто яго ведае, ці не займае і зараз) вядучае месца. Але і перакладчыкі чамусьці дагэтуль ахвотней горнуцца да слова вершаванага.

Украінцы атрымалі на сваёй роднай мове нямала зборнікаў беларускіх паэтаў. Творы Янкі Купалы выдаваліся па-ўкраінску каля дзесяці разоў. Выходзілі вершы і паэмы Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, байкі Кандрата Крапівы, кнігі паэзіі Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і інш. Толькі за апошнія два гады з'явіліся ў друку кніга лірыкі Максіма Багдановіча (у серыі «Жамчужыны сусветнай паэзіі») і яго «Вянок», перакладзены яшчэ ў дваццатыя гады вядомым украінскім літаратарам Міхайлам Драй-Хмарам (у кнізе выбраных твораў М. Драй-Хмары). Мікола Нагнібяда пераклаў кнігу вершаў Максіма Танка «Мой хлеб надзённы», а Андрэй Малышка—шэраг лірычных твораў і паэм Янкі Купалы, якія выпусціла ў свет кіеўскае выдавецтва «Дніпро».

Як відаць ужо з пераліку імёнаў, на Украіне да апошняга часу было вядома выключна старэйшае пакаленне беларускіх паэтаў. Іх творы вызначылі, дарэчы, і паэтычнае аблічча анталогіі «Беларуская савецкая паэзія», выдадзенай яшчэ ў 1948 годзе пад рэдакцыяй Я. Коласа, П. Тычыны, Ул. Сасюры і іншых, а таксама анталагічнага зборніка «Песні з Беларусі», які выйшаў у Кіеве ў 1957 годзе. Маладая ж беларуская паэзія ішла на спатканне з украінскім чытачом...

За справу папулярызацыі творчасці маладых бярэцца старэйшына ўкраінскага савецкага перакладу Грыгорый Кочур. І вось, як вынік, своеасаблівы падрахунак усёй гэтай працы — вялікая, ажно на 14 друкаваных аркушаў, анталогія маладой беларускай паэзіі «Калінавыя масты».

Ад падобных выданняў «Калінавыя масты» адрозніваюцца перш за ўсё строгім «узроставым цэнзам» прадстаўленых у ёй аўтараў: у кнігу ўвайшлі вершы паэтаў, якім няма сарака год, г. зн. тых, хто нарадзіўся не раней 1930 года. Безумоўна, сталасць паэзіі далёка не заўсёды абумоўліваецца ўзростам яе стваральнікаў. Тым не менш у гэтым ёсць свой пэўны сэнс: у анталогіі добра «праглядваюцца» патэнцыяльныя магчымасці ўсёй беларускай паэзіі, відаць яго сённяшні юны і заўтрашні сталы дзень...

Галоўнае месца ў «Калінавых мастах» занялі творы паэтаў, якія актыўна заявілі пра сябе з другой паловы 50-х гадоў і маюць на сёння нямала ўласных паэтычных кніг. Гэта — Ул. Караткевіч, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, С. Гаўрусёў, А. Лойка, П. Макаль, Ю. Свірка, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, Ул. Паўлаў. Побач з імі — паэты прызыву 60-х гадоў: В. Зуёнак, М. Рудкоўскі, Р. Тармола, А. Наўроцкі, М. Стральцоў, Д. Бічэль-Загнетава, А. Грачанікаў, В. Макарэвіч, В. Вярба. Не абышоў складальнік анталогіі Гр. Кочур і паэтаў малодшага пакалення. У анталогіі змешчаны вершы М. Маляўкі, С. Панізніка, М. Дуксы, М. Федзюковіча, Р. Семашкевіча, В. Іпатавай, Ю. Голуба, В. Сідарэнкі, В. Коўтун, Ж. Янішчыц, А. Разанава. Усяго ж у «Калінавых мастах» змешчаны творы сарака трох паэтаў.

Пра творчую манеру многіх з іх, пра своеасаблівасць маладой беларускай паэзіі ўвогуле, яе сувязь з часам, грамадскім жыццём хораша і з веданнем справы расказаў ва ўступным артыкуле да кнігі Алег Лойка. Яго артыкул «Новы вырай» — своечасовыя, неабходныя ўводзіны чытача ў свет паэзіі, без якіх сам гэты свет мог бы здацца не да канца зразумелым. Дарэчы, звесткі, пададзеныя ў артыкуле, добра дапаўняюцца лаканічнымі біяграфічнымі і бібліяграфічнымі даведкамі пра кожнага з аўтараў.

Над перакладамі беларускіх твораў працавала каля сарака ўкраінскіх паэтаў, у пераважнай большасці — маладых па ўзросце. Такі «брыгадны» спосаб працы дазволіў за вельмі кароткі час выпусціць кнігу ў свет, пазнаёміць украінцаў з самымі навейшымі здабыткамі паэтычнага мастацтва беларускага народа. Але, разам з тым, ён не мог не прывесці і да некаторай якаснай стракатасці перакладаў, іх пэўнай разнастылёвасці. Гэта заўважаецца часам нават у мове перакладзеных твораў, што абумоўліваецца нярэдка арыентацыяй перакладчыкаў на родныя ім, але розныя (усходнія і заходнія) украінскія гаворкі. Так, напрыклад, беларуская «крыніца» перадаецца па-рознаму: криниця, керниця, джерело, ключ. І выклікана гэта якраз не мастацкімі задачамі, а прыхільнасцю перакладчыка да пэўнага слова-сіноніма.

Важна іншае: у цэлым, за невялікімі выключэннямі, маладая беларуская паэзія загучала па-ўкраінску шчыра, задушэўна, эмацыянальна. Многія вершы, здаецца, з самага пачатку напісаны былі на ўкраінскай мове.

Па-майстэрску ўзноўлены ва ўкраінскай моўнай стыхіі многія творы беларускіх паэтаў перакладчыкамі старэйшага пакалення — тым жа Гр. Кочурам, Д. Паламарчуком, М. Пятрэнкам. Нямала папрацавалі і маладзейшыя, але ўжо таксама даўнія прыяцелі беларускай паэзіі Ул. Лучук, Р. Лубкіўскі, І. Гнацюк, Я. Танюк, Л. Чараватэнка, Д. Чараднічэнка і інш. Да іх прылучылася цэлая кагорта паэтэс — Е. Брынцава, С. Жолаб, М. Львовіч, Е. Нарубная, Я. Паўлычка, А. Сенатовіч. Тыя некалькі вершаў, што пераклалі для анталогіі І. Драч, В. Каротыч, М. Кацюбінская, вызначаюцца беражлівым стаўленнем да арыгінала, уменнем пранікнуць у самую яго сутнасць, перадаць яго дух.

«Калінавыя масты» адкрываюць сабой шлях украінскіх чытачоў да маладой паэзіі іншых саюзных рэспублік — імі распачынаецца на Украіне выдавецкая серыя «Маладая паэзія краіны». Па гэтых мастах на Украіну прыйдзе яшчэ нямала і новых таленавітых беларускіх літаратараў.

Т. КАБРЖЫЦКАЯ.

г. Львоў.

«Калинові мости». Анталогія маладой беларускай паэзіі. На ўкраінскай мове. Выдавецтва «Молодь». Кіеў. 1969.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СІНТАКСІСЕ

За апошнія гады выдадзена нямала добрых кніг па беларускай мове. Сярод іх варта адзначыць і «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы», прызначаны студэнтам філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў як практычны дапаможнік.

Кніга складаецца з асобных раздзелаў, вывучэнне якіх прадугледжана праграмай. У кожным раздзеле дзве часткі. У тэарэтычнай частцы асноўная ўвага ўдзяляецца найбольш складаным пытанням сінтаксісу, прыводзіцца абавязковая і дадатковая літаратура, прапануюцца пытанні для самаправеркі. У практычнай частцы змешчаны разнастайныя практыкаванні і заданні, выкананне якіх дапаможа замацаваць тэарэтычны матэрыял. Такая структура дапаможніка апраўдваецца практыкай і спрыяе свядомаму засваенню самых складаных правілаў сінтаксісу.

Асноўную ўвагу аўтары дапаможніка звяртаюць на складаныя пытанні сінтаксісу, якія маюць важнае значэнне для разумення сінтаксічных з'яў беларускай літаратурнай мовы. Кожны раздзел дапаможніка вызначаецца дакладнасцю і глыбінёй фармуліровак, прастатой і выразнасцю тлумачэння. Аўтары даюць адказы на шмат якія пытанні сінтаксісу, недакладна растлумачаныя або зусім не асветленыя ў ранейшых дапаможніках.

У кнізе, напрыклад, даецца не толькі змястоўнае тлумачэнне пабочных і ўстаўных слоў, спалучэнняў слоў і сказаў, а і іх дакладнае размежаванне з членамі сказа. Пры гэтым асаблівая ўвага звяртаецца на такія словы, як **нарэшце, сапраўды, праўда, напэўна, канечне, аднак.**

У дапаможніку даюцца дакладныя тлумачэнні самых складаных пытанняў сінтаксісу. Сярод іх: вызначэнне дзейніка і выказніка, выражаных рознымі часцінамі мовы і спалучэннямі слоў, адрозненне прыдатка ад паяснёнага слова, акалічнасці ад іншых членаў сказа, параўнальнага звароту ад параўнальнага сказа, аднасастаўных сказаў ад няпоўных сказаў, развітых намінатыўных ад двухсастаўных сказаў. Аўтары тлумачаць асноўныя прынцыпы размежавання даданых членаў сказа, выражаных формамі назоўніка, даюць кароткую, але даволі выразную характарыстыку складаназлучаных і складаназалежных сказаў, розных відаў даданых сказаў, злучаных слоў і злучнікаў, простай, няўласна-простай і ўстаўной мовы.

Кожнае тлумачэнне тэарэтычнага матэрыялу падмацоўваецца прыкладамі з твораў мастацкай літаратуры або перыядычнага друку. Важнае значэнне пры гэтым надаецца сэнсавым і граматычным асновам пунктуацыі і пастаноўцы знакаў прыпынку.

Аўтары дапаможніка шмат увагі надаюць пытанням культуры роднай мовы, яе спецыфіцы ў сінтаксісе, указваюць на неўласцівыя беларускай мове канструкцыі і парушэнні літаратурных нормаў, якія часта сустракаюцца ў перыядычным друку і ў творах мастацкай літаратуры.

Нацыянальная спецыфіка мовы вельмі ярка праяўляецца ў словазлучэнні. Пра гэта сведчаць шматлікія беларуска-рускія паралелі, якім у дапаможніку адводзіцца значнае месца.

Трэба аддаць належнае складальнікам дапаможніка за іх умелы падбор прыкладаў і параўнанняў, за дакладнасць тлумачэнняў.

У сінтаксісе ўсё яшчэ ўжываюцца ўскладнёныя тэрміны, якія не садзейнічаюць паспяховаму разуменню сінтаксічных з'яў. Аўтары дапаможніка свядома адыходзяць ад былых штампаў і карыстаюцца больш дакладнай лінгвістычнай тэрміналогіяй. Удалымі трэба лічыць такія тэрміны, як **удакладняльныя, абагульняльныя, паясняльныя** і **паяснёныя** словы (у ранейшых дапаможніках: удакладняючыя, абагульняючыя, паясняючыя і паясняемыя). Добра зрабілі аўтары дапаможніка, што адмовіліся ад такіх недакладных слоў, як **пасрэднае** і **беспасрэднае** кіраванне. Замест іх уводзіцца зусім дакладны тэрмін — **прыназоўнікавае** і **беспрыназоўнікавае** кіраванне. Варта было б замяніць і такія незразумелыя тэрміны, як **прысубстантыўнае, прыад'ектыўнае** і **прыадвербіяльнае** дапаўненне. Гаворым жа мы проста і зразумела: **прыдзеяслоўныя** дапаўненні. Дык чаму ж нельга гаварыць: **прыйменнае назоўнікавае, прыйменнае прыметнікавае** дапаўненне?

Добры дапаможнік выпусціла выдавецтва «Вышэйшая школа». Кніга — вартая ўвагі. Шкада толькі, што яна выдадзена невялікім тыражом — 4 тысячы экземпляраў. Такі тыраж далёка не задаволіў попыт на кнігу. Патрэбна такая кніга не толькі студэнту-філолагу, як адзначаецца ў прадмове. Патрэбна яна кожнай школе, кожнаму настаўніку беларускай мовы і літаратуры. Кнігай будуць ахвотна карыстацца літаратары, газетныя работнікі, студэнты-завочнікі не толькі вышэйшых, а і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, усе, хто любіць і шануе родную мову.

С. ПРАЧ.

М. С. Яўневіч і Т. У. Сцяцко. «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы». Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск, 1969.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# НА ЎЗВЕІ НОВЫХ ДЗЁН

**2 красавіка споўнілася 90 гадоў чалавеку з вялікай і сумленнай біяграфіяй, чалавеку, які пакінуў прыкметны след у самых розных сферах беларускага грамадскага, культурнага і літаратурнага жыцця. Чалавек гэты — Язэп Лявонавіч Дыла, рэвалюцыянер, нарком працы ў першым беларускім савецкім урадзе, таленавіты літаратар, які пад псеўданімамі Назар Бываеўскі і Тодар Кулеша апублікаваў нямала п'ес, аповесцей, артыкулаў, успамінаў.**

Язэп Лявонавіч Дыла нарадзіўся ў сям'і слуцкага паштовага служачага. Дзяцінства прайшло сярод цікавых людзей — песеннікаў, казачнікаў, батлеечнікаў. Ужо ў Слуцкай гімназіі хлопчык пазнаёміўся з нелегальнай літаратурай, канфліктаваў з дырэкцыяй. Імкненне да ведаў прывяло Дылу ў старажытны Юр'еў (цяпер Тарту), дзе ён вучыўся ў ветэрынарным інстытуце і адначасова наведваў лекцыі па прыродазнаўстве і эканоміцы ва універсітэце. Выбраны ад мінскага зямляцтва ў студэнцкі «Саюзны савет», юнак удзельнічаў у арганізацыі антыўрадавых студэнцкіх хваляванняў і быў арыштаваны за «ўжыванне супраць паліцыі хімічных рэчываў». Рашэнне інстытуцкіх улад было безапеляцыйным: выключаны без права паступлення ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У 1903 годзе пошукі работы прывялі Дылу ў мінскую газету «Северо-Западный край». Працаваў тут падчытчыкам, карэктарам, пісаў допісы пра мясцовых цемрашалаў. А калі ўзнялася рэвалюцыйная хваля 1905 года, дапамагаў у выданні нелегальных брашур і пракламацый, вёў тлумачальную работу сярод сялян. Слежка вымусіла Дылу пакінуць Мінск і перабрацца спачатку ў Арэнбург, а потым у Пецярбург.

У сталіцы шчаслівы выпадак звёў Язэпа Лявонавіча з вядомым літаратуразнаўцам М. Лемке. Пад яго кіраўніцтвам Дыла вывучае кнігавыдавецкую справу. Той жа Лемке рэкамендуе яго Марыі Карлаўне Купрыной, жонцы вядомага пісьменніка, у якасці загадчыка выдавецтва новага часопіса «Современный мир». На кватэры Купрыных завязваюцца знаёмствы з Андрэевым, Арцыбашавым, Калантай.

Кастрычніцкая рэвалюцыя застала Дылу ў Маскве. Няўрымслівы энтузіяст адразу ж устанаўлівае сувязі з беларускімі арганізацыямі — нейкі час працуе старшынёй Цэнтральнага беларускага бежанскага камітэта, супрацоўнічае з газетай «Дзянніца» выдавецтвамі. А калі пачалося фарміраванне першага ўрада першай беларускай дзяржавы, імя Язэпа Лявонавіча Дылы было названа сярод імён нашых першых наркомаў. У студзені—лютым 1919 года Дыла ўзначальваў барацьбу за стварэнне нармальных умоў працы ў напаўразбураных майстэрнях і заводах, арганізоўваў сходы і мітынгі, дзе даваў рашучы адпор бундаўцам і паалей-сіяністам, арганізоўваў прафсаюзны рух.

Пасля ўтварэння Літбела Язэп Лявонавіч часова пераязджае ў Маскву, загадвае там клубам «Беларус». Каб паслухаць гутарку аб падзеях на радзіме, пачытаць свежыя газеты і часопісы, сюды прыходзілі рабочыя-беларусы, чырвонаармейцы і чонаўцы.

У маі 1921 года па прапанове Кнорына Дыла зноў вяртаецца ў Мінск. У той цяжкі час неставала адукаваных і адданых новай уладзе людзей. Прыходзілася літаральна раздвойвацца і растройвацца. Я. Дыла адначасова ўзначальваў лектарскія курсы пры НКА БССР, чытаў лекцыі па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, уваходзіў у склад навукова-тэрміналагічнай камісіі. Потым пайшлі больш адказныя даручэнні: старшыня Цэнтрасаюза БССР, старшыня Дзяржаўнай планавай камісіі БССР, намеснік старшыні па раяніраванні БССР. Адначасова вабіла літаратура, мастацтва. Вучоны сакратар Інбелкульта, дырэктар І беларускага тэатра, намеснік дырэктара Белдзяржкіно — вось далёка няпоўны пералік пасад, якія займаў Язэп Лявонавіч у 20-я гады. Тады ж на сцэне БДТ-1 была пастаўлена і паспяхова ішла яго п'еса «Панскі гайдук». Дваццатыя гады былі багатыя сустрэчамі з цікавымі людзьмі — Купалам, Коласам, Кржыжаноўскім, Занькавецкай. Пра гэтыя сустрэчы Язэп Лявонавіч можа і цяпер расказваць цэлымі днямі, каларытна перадаючы дух эпохі, найдрабнейшыя дэталі...

У пасляваенныя гады Я. Дыла жыве ў Саратаве. Нашы часопісы друкуюць яго аповесці («Настасся Мякота»), драматычныя сцэны («Юнак з Крошына»), успаміны, рэцэнзіі, артыкулы. Нягледзячы на свой паважны ўзрост, юбіляр і сёння не выпускае пяра з рук. Яму ёсць што расказаць сваім сучаснікам і нашчадкам: дзевяноста гадоў пражыта недарма!

А. МАЛЬДЗІС.

АКАДЭМІЧНАЯ харавая капэла БССР... Ужо трыццаць гадоў гэты выдатны калектыў — гонар і слава беларускай музыкі — з'яўляецца нястомным прапагандыстам народнай творчасці і здабыткаў прафесіянальнай музычнай культуры свайго народа. У мінулым нумары мы расказвалі, як урачыста адзначыла грамадскасць Мінска гэтую дату.

Ад невялікага ансамбля да Акадэмічнай харавой капэлы, вядомай далёка за межамі рэспублікі, — такі трыццацігадовы шлях калектыву. Шматлікія прывітальныя адрасы і віншавальныя тэлеграмы, што паступілі на імя юбіляра, гавораць аб усенароднай любві і прызнанні. Шчырыя словы падзякі гучаць і ў адрас яе нязменнага кіраўніка, народнага артыста СССР Рыгора Раманавіча Шырмы — вялікага знаўцы, улюбёнага збіральніка беларускага фальклору, нястомнага папулярызатара песень роднага краю...



Здаецца, Рыгор Раманавіч задаволены...

# ТУТ ДА БОЛЮ МНЕ РОДНАЕ ЎСЁ...

*Ці ў маленства*
*вярнуўся, ці ў сне я?*
*Тут да болю мне*
*роднае ўсё...*

*П. ПАНЧАНКА.*

Прасторная зала мінскага Дома кіно. Тут часова рэпеціруе Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР. Мастацкі кіраўнік капэлы, Рыгор Раманавіч Шырма, дае апошнія загады, парады:

— Сёння ўсіх папрашу быць асабліва ўважлівымі і сабранымі, — гаворыць ён. — Давядзецца падладжвацца да акустыкі новага памяшкання. Пачнём, як заўсёды, з распеўкі...

Ён задумённа ходзіць, спыняецца, зноў ходзіць. У руках невялікі блакнот, і Рыгор Раманавіч запісвае, запісвае, запісвае...

Скончылася распеўка, але ўсе — на сваіх месцах. Глядзяць на Рыгора Раманавіча — што скажа ён?

Шырма адкладвае блакнот. Гаворыць строга і рашуча:

— Не ўзрадавалі. Хіба гэта галасы прафесіянальных спевакоў? Ды вы нават дыхання патрэбнага падабраць не змаглі! Прашу паўтарыць... Уважлівей басы... Другія сапрана — спакайней... Альты, слухайце партнёраў...

Ён яшчэ доўга гаворыць персанальна кожнаму артысту, раіць, прапануе, папраўляе. І няхай не вельмі прыемна слухаць жорсткія папрокі, артысты ведаюць, што Рыгор Раманавіч слоў на вецер не кідае. Трэба сабрацца, трэба працаваць. Што зробіш, мастацтва—гэта не толькі лаўры...

І вось у зале гучыць бадзёрая беларуская народная песня. Мне здаецца, што словы Рыгора Раманавіча дапамаглі.

Але не, Шырма зноў незадаволены:

— Дрэнна. Каша, а не спяванне. Ну што ж вы так, сапрана?! Трэба ўтрымліваць вярхі. Ды і басы зноў гучаць грузна і цяжка, музыка ж вясёлая, трэба адчуваць палёт. Палёт! А вы «паўзеце».

Прыдзіраецца Рыгор Раманавіч, вельмі ж прыдзіраецца, — думаю я.

Зноў спачатку...

— Малайцы! Але не забывайце аб знаках прыпынку ў тэксце...

Выбраўшы зручную хвілінку, калі артысты пайшлі на перапынак, я гутару з Рыгорам Раманавічам.

— Рыгор Раманавіч, мы шчыра віншуем вас і ўвесь калектыў са святам — 30-годдзем стварэння капэлы. Хочацца, каб вы крыху расказалі аб шляху, які прайшоў хор.

— Аб мінулым, з чым звязаны самыя радасныя ўспаміны маладосці, гаварыць заўсёды прыемна. Мне, ды і многім нашым артыстам, якія працуюць у хоры з першых дзён яго заснавання, не забыць 15 студзеня 1940 года — дзень нашага нараджэння.

Жыццё наша пачалося ў Беластоку. Сюды з'ехаліся юнакі і дзяўчаты з многіх вёсак і гарадоў, якія прайшлі найцяжэйшыя конкурсныя выпрабаванні, і якія безумоўна ўмелі і хацелі спяваць, але не хапала майстэрства, адукацыі, калі хочаце, элементарных музычных ведаў... А паслухайце зараз нашых вопытных артыстаў — нашых «піянераў» П. Морыца, Л. Макарчук, А. Межан, М. Шуманскага і В. Юневіча! Ды і не толькі іх...

— Мы ведаем, што гастрольныя маршруты капэлы праляглі па ўсёй краіне. Скажыце некалькі слоў аб гэтых паездках.

— Зараз цяжка сказаць, дзе мы былі, — прасцей адказаць, дзе не былі. За ўсю гісторыю існавання мы далі 4.500 канцэртаў, на якіх пабывалі больш двух мільёнаў гледачоў. Выступалі ўсюды: на лепшых сталічных сцэнах, у гарадах, раёнах, сёлах, перад воінамі Савецкай Арміі.

Асабліва прыемныя ўспаміны пакінулі ў нас паездкі па гарадах і сёлах Сібіры. Праз некалькі тыдняў мы зноў будзем у тых месцах — прымем там удзел у Свяце мастацтваў народаў СССР. У рэпертуары, які пакажам сібіракам, харавыя песні А. Багатырова «Шумелі бярозы», «Балада аб казаках», апрацоўкі народных песень, чатыры хоры Р. Шчадрына, араторыя Я. Глебава, «Дума пра Леніна» Г. Вагнера, «Будан у Разліве» В. Мурадэлі і іншыя творы беларускіх аўтараў і кампазітараў братніх рэспублік.

У красавіку выступім у зале Маскоўскай кансерваторыі.

Мы яшчэ доўга гаварылі аб складаных праблемах, якія стаяць перад калектывам. Рыгор Раманавіч пазнаёміў мяне з ветэранам капэлы, заслужаным артыстам рэспублікі Міхасём Шуманскім. Вось што ён сказаў:

— Трыццаць гадоў — невялікі кавалак часу. Здаецца, зусім нядаўна дзевятнаццацігадовым хлапчуком прыйшоў я ў хор разам з Васілём Юневічам, а сёння сам сустракаю нашу маладую змену. У іх і адукацыя, і культурны ўзровень далёкія ад таго, што мелі мы. Я рады за іх. І ўсімі сіламі стараюся перадаць ім свой вопыт і веды. Асабліва тым, хто яшчэ зусім нядаўна прыйшоў да нас з мастацкай самадзейнасці.

...І зноў за пультам Шырма. На ўсю залу гучыць «Дума пра Леніна». Харавая акадэмічная капэла БССР рыхтуе чарговую праграму. Рэпетыцыя працягваецца...

**Вік. САЛАЎЁЎ.**



Ветэраны і моладзь капэлы — М. Шуманскі, С. Далянчук, У. Туз, В. Юневіч, А. Каменева.

Фота Ул. КРУКА.

# ЛЫЧОЎ ГОРАН

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Сымон Мацвеевіч перабірае квіткі, страхавыя лісты, пісьмы, запрашэнні. Просяць прыслаць узоры сваіх вырабаў у Магілёўскі абласны Дом народнай творчасці, просяць і з Мінска. Дарэчы, бачыў я выстаўку яго вырабаў у Крычаўскай школе імя Леніна. У гэтай школе Сымон Мацвеевіч вось ужо адзінаццаць гадоў працуе ў кацельнай. Для дзяцей, каб не забывалі, якім народным умельствам здаўна славіўся горад, і зрабіў ганчар тую выстаўку глінянага посуду. Цікавасць да яе ў школьнікаў не меншая, чым да якіх-небудзь тэхнічных цудаў.

— Нам жа яшчэ ў гарфа загадалі... — гаварыў Сымон Мацвеевіч, забіраючы ад мяне свае паперы. — Загадалі, каб кожны з ганчароў выбраў сабе ў раёне адзін які-небудзь рынак і посуд свой толькі там прадаваў. Ну, і сядзіш, бывае, са сваімі гаршкамі, чакаеш з мора пагоды. Пакупнікоў тых кот наплакаў. Бо гаршчок жа не хлеб—не трэба кожны дзень новы. Ды і сельскія людзі не вельмі зараз на базар едуць. Можа толькі бабы ўлетку ягады ды садавіну прадаваць. Усё ў сельмагу сваім купляюць. Нават тэлевізары. А з-за гаршка там ці гладыша — хто ж гэта паедзе ў горад? Цяпер ужо нам, ганчарам, трэба збірацца ды везці да людзей свой тавар. А як? Вось я і кажу...

...Між тым акрэп агонь у горне Чарткова-малодшага. «Малодшага» — бо ёсць яшчэ і старэйшы Чарткоў, Цімох, пра якога гаварыў Сымон Мацвеевіч. Таму гадоў пад семдзесят. Але і малодшы, Васіль Гыгоравіч, ужо на пенсіі. Надоечы я заходзіў да яго пагутарыць. Крыху пакульгваючы — ён інвалід Айчыннай вайны — Васіль Рыгоравіч змрочна пахаджваў ля горна, аглядаў сваю ганчарскую гаспадарку, кідаючы па слоўку-другому маладому мужчыну. Той жвава падносіў бярэмцамі дробна пасечаныя смольныя корчыкі.

— Памочнік у вас добры, — сказаў я ганчару.

— Зяць, — кіўнуў Васіль Рыгоравіч. — Афіцэр, у госці завітаў. Яму, бачыце, цікава ля горна. А так адзін тупаю. Вось адпалю, колькі мне тут жыць засталося, а там... Закапаюць прадзедаўскую дымакурню — і гамон нашай справе.

— Вучыць каго вазьміце, каб умельства дарэмна не згубілася, — заўважыў зяць, які прыслухоўваўся да нашай размовы.

— Што ж мне — на вуліцы тых вучняў лавіць? Хіба цябе вось...

Зяць засмяяўся.

— Так-та яно...—усміхнуўся і Васіль Рыгоравіч. — Праўда, мы тут удвох з Цімохам крыху падсабляем аднаму. Мо чулі пра Лычова Лякcея? Дык яму. Тое-сёе ён і ад бацькі свайго ўзяў. Бацька добры быў ганчар. Род іх увесь здольны. Але ж Лякcей не ўсё ўведаў. Во яму і дапамагаем. Асабліва Цімох наш.

Так я, яшчэ не пазнаёміўшыся з Аляксеем Лычовым, многае аб ім ужо ведаў. Ніхто не мог толькі сказаць— ці находзіць яго род з Мсціслаўля?

Аднак гэтага і сам Аляксей не ведаў. Дзяды і прадзеды яго жылі ў Крычаве, род свой лічылі старадаўнім, крычаўскім. Так што калі і перасяліўся сюды мсціслаўскі ўмелец, то адбылося гэта недзе, напэўна, стагоддзі ў шаснаццатым ці семнаццатым, калі Мсціслаўль — парубежны горад былой Польска-Літоўскай дзяржавы — часта аказваўся арэнай ваенных канфліктаў, разбураўся і цярпеў ад пажараў. Магло быць і крыху пазней, калі фаварыт царыцы расійскай Кацярыны Другой князь Пацёмкін загадаў у Крычаве збудаваць сабе палац. Спатрэбілася шмат муляроў, спатрэбілася кафля. А дзе ж было шукаць лепшых майстроў-кафельшчыкаў, як не ў Мсціслаўлі, чые «цаніннікі» аздаблялі некалі сваімі вырабамі самыя выдатныя будынкі старажытнай Масквы?

Не ўдалося мне пакуль устанавіць, ці быў той амаль легендарны Івашка Лыч — ганчар і цаніннік з Мсціслаўля — раднёй крычаўскім Лычовым.

Ды ці ў прамым радстве, урэшце, справа? Вось у Крычаўскім краязнаўчым музеі ляжыць каляровая кафля, знойдзеная ў часе раскопак замчышча. А яе ж арнамент вельмі падобны да таго, што выканаў мастак на застаўках у кнізе твораў Францішка Багушэвіча. Значыць, ёсць у арнаменце той старажытнай кафлі наша агульнабеларускае. Ды дзіва што: у дванаццатым стагоддзі мсціслаўскага князя запрашала, напрыклад, ноўгарадскае веча кіраваць горадам. Князь у Ноўгарад-вялікі ўзяў з сабою многа чэлядзі і розных умельцаў. А ў пачатку шаснаццатага стагоддзя дастаўся Мсціслаўль князю Міхайлу з Заслаўля, што пад Мінскам. Князь загадаў на свой густ перабудаваць замак, з тае прычыны прывезена было ў парубежны горад багата рамеснікаў з Заслаўля.

— Я ўжо многага не памятаю з нашага дзедаўскага ўмельства, — гаварыў мне Аляксей Лычоў. — Каб на прамкамбінаце мяне не пакалечыла машынай, напэўна б, і не ўзяўся б за гэты посуд... — і тут жа дабаўляе задуменна і сарамліва: — А можа і ўзяўся б. Бо іншы раз цягне... Ад бацькі, відаць, перадалося. Але забыў многае. Першы раз сам узяўся ляпіць гаршкі — такія недацёпы атрымаліся! От адзін такі на памяць берагу... І абпальваць добра не мог. Аднойчы папрасіў у Васіля Чарткова горан — на маім жа, што ад бацькі застаўся, паліць пажарнікі не даюць, кажуць — яшчэ шкоды нараблю. Ага... Папрасіць, значыць, папрасіў, а выпаліць не мог. Два дні і дзве ночы кукаваў, пакуль дровы не скончыліся. Дастаў посуд — брынчыць, трэскаецца. А каб на яго ліха... Дзякуй яму, Цімох падказаў потым трохі... От яно як... І свісцёлак рабіць не магу. А дзеці просяць... Дый самому цікава. Гэта зараз, мабыць, на ўсю Ганчароўку адзін Сымон Мазалькоў умее. Хаця не, відаць і дзед Васіль Воранаў зрабіў бы. Ну, можа яшчэ і Кузьма Малека. Але той ужо гэтым не займаецца. Не... Ды каму яны патрэбны?

Вось ён — той самы знаёмы матыў. Матыў, які наводзіць на сумны роздум...

А загадчык раённага аддзела культуры Віктар Фёдаравіч Маслянскі паказаў мне паперку з вобласці. Там гаварылася, што ў сувязі з падрыхтоўкай раённых і абласных выставак майстроў самадзейнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прысвечаных ленінскаму юбілею, запрашаюцца ў Магілёў на семінар у ліку іншых народных умельцаў два крычаўскія ганчары.

Значыць, патрэбна яшчэ ўмельства Аляксея Лычова і яго старэйшых таварышаў!

...З цёмнай вышыні цвінтара мы назіралі з Васілём, як упарта набіраў сілу горан Чарткова-малодшага. Адзіны на ўсю Ганчароўку! І гэта ў пятніцу, калі ўсе майстры, нават самыя марудлівыя, дасушвалі свой тавар і хто раней, хто пазней крыху, распальвалі горны. Да шасцідзесяці горнаў!..

І сябра мой пачаў гаварыць аб тым, што — усё... Адыходзіць, мабыць, у паданні старажытнае ганчарнае майстэрства ў Крычаве... І быў у яго голасе сум, адчувалася вялікая шкадоба...

А, можа, усё-такі ранавата цурацца ўсяго гэтага? Можа варта падтрымаць тыя адзінокія агні, распаліць горны?

Ну, хаця б дзеля таго малака, што так добра чамусьці п'ецца, калі пастаіць яно ў халодным склепе якраз у збанку. Ёсць нейкія поры ў той глінянай пасудзіне, што надаюць малаку нейкі своеасаблівы водар. Гаспадыні кажуць: ад таго, што малако «дыхае». І смятана лепш адстойваецца ў збанах.

А калі ўжо хто лічыць сябе зусім урбаністам, на ўсе сто дваццаць працэнтаў, як казала адна маладзіца-цыганка ў Крычаве, якая ўвесь час прасіла «на пагарэлае», тады хай успомняць гаршчочкі ў мінскай «Бульбянай» і ў іншых сталоўках. Тыя ж самыя зацятыя гараджане з першабытнай нейкай асалодаю калупаюць з тых гліняных цёпанцаў ружовую, з залацістаю скарынкаю бульбяную смажаніну.

...За гутаркаю мы не заўважылі, калі запалаў яшчэ адзін горан. Ён ужо добра разгарэўся, і нам стала здавацца — ззяе там залаты дыск. Раз-пораз на краі дыска ўзнікала цёмная адзінокая постаць. Яна то рухалася па крузе, то крыху прыстойвала і нагіналася, здавалася, прынікала да жывога золата агню. Нібы пашанцавала нам назіраць адзінокага вогнепаклонніка, далёкага прашчура нашага, што з глыбіні вякоў нейкім цудам узнік на дне старажытнага яра, каб ускалыхнуць у нас успамін ці той нейкае казкі, ці то былі, перададзенай па крыві продкамі, — далёкі, залаты сон дзяцінства!

— А то ж няйначай Лёкса Лыч паліць! — усклікнуў мой сябра. — Сільна гарыць! Навучыўся, значыць...

# БЕЛАРУСКАЯ СКУЛЬПТУРА. 1970

Ірына ЕЛАТАМЦАВА



*У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР працягвае працаваць рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. На старонках нашай газеты пісалі пра гэтую выстаўку гледачы і мастацтвазнаўцы.*

*Сёння мы працягваем абмеркаванне выстаўкі.*

*Ірына Елатамцава — мастацтвазнаўца, супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР. Яе пяру належаць кнігі аб беларускай кераміцы і беларускім манументальным мастацтве.*

ЛІЧБА «100», якая сустракае наведвальніка выстаўкі ўжо ля ўваходу ў музей, успрымаецца не так весткаю размовы пра мінулае, як заклікам да абмеркавання самых надзённых праблем у жыцці і ў мастацтве.

Асабліва гэта датычыць скульптуры. Пра цікавасць майстроў разца да нашых дзён сведчыць хаця б той факт, што ў экспазіцыі скульптуры пераважае сучасная тэматыка. З трыццаці пяці новых твораў нашых скульптараў толькі дзесяць непасрэдна прысвечаны рэвалюцыйнаму мінуламу, вобразам Ільіча і яго аднадумцаў, паплечнікаў. Астатнія расказваюць пра гераіку Вялікай Айчыннай вайны, пра жыццё і побыт сённяшніх будаўнікоў камунізма.

Не лішне падкрэсліць, што работы скульптараў, прысвечаныя нашаму слаўнаму мінуламу, у пераважнай большасці пазбаўлены налёту рэтраспектывізму. Гісторыя ўбачана вачыма нашых сучаснікаў.

СТАНОЎЧАЯ рыса беларускай скульптуры гэтага года — у параўнанні з мінулымі — большая жанравая разнастайнасць. Побач з партрэтам, які ў нас, мабыць, часцей за ўсё складае аснову экспазіцыі, на гэты раз віднае месца занялі буйнамаштабныя творы сімвалічнага характару. З'явіліся і праграмныя кампазіцыі — самае складанае адгалінаванне пластыкі, якое дагэтуль у нас развіваецца марудна.

Ужо ў самім факце звароту да праграмных кампазіцый мы бачым сведчанне росту творчага вопыту нашых скульптараў.

Сярод такіх кампазіцый — работа А. Заспіцкага «Да зор!» Сімвалічная фігура — увасабленне парыву, руху наперад — стала адным з самых любімых, папулярных вобразаў у савецкай пластыцы яшчэ з часоў І. Шадра, В. Андрэева, В. Мухінай. Пераканаўчым развіццём гэтай традыцыі з'явілася кампазіцыя А. Кібальнікава «Да сонца!», дзе ў вобразе мужнага чалавека з праменем-маланкаю ў руках гледачы ўбачылі сімвал каласальных заваяванняў чалавечага розуму.

Кампазіцыя А. Заспіцкага развівае думку аб будучыні ў інакшым плане. З'яўляючыся першай спробай аўтара ў названым жанры, яна пакуль яшчэ не ў дастатковай меры цэльная, хаця па-свойму цікавая. Сімволіка тут недастаткова акрэсленая. І таму назва работы дапускае рознае тлумачэнне. Назва «Да зор!» — аўтарскае ўказанне на думку аб асваенні касмічнай прасторы, а адлюстраванне — вялізная мускулістая фігура чалавека з суровым абліччам рабочага і пяцікутнай зоркай на грубай далоні — больш нагадвае рэвалюцыйны парыў мас, якія пракладаюць шлях наперад да сацыяльных заваёў Кастрычніка. Магчыма, пэўная двaістасць задумы прадвызначыла і не да канца паслядоўнае пластычнае рашэнне скульптуры. Занадта буйныя мышцы ног і грудзей, цяжкія набрынялыя рукі рабочага-велікана робяць амаль асязальнай яго фізічную сілу. У той жа час інтэлектуальная сіла вобраза не знайшла дастатковай распрацоўкі. Скульптар дабіўся пэўнага поспеху ў пабудове фігуры. Але міжволі задаеш сабе пытанне: калі аўтар гаворыць пра сучасніка, дык ці сугучны створаны ім вобраз нашым уяўленням пра сучаснікаў? Безумоўна, кожны мае права на ўласнае тлумачэнне сучаснасці. І ўсё ж даючы сваё тлумачэнне, скульптар не можа не ўлічваць і ўяўлення пра сучаснасць мноства людзей ці, інакш кажучы, пэўных **агульных** уяўленняў.

Поза фігуры крыху наўмысная. Рух ускладнёны і, мабыць, залішне неспакойны. Вінтападобны паварот торса і рэзка ўскінутая правая рука кантрастуюць з вялым рухам левай рукі, слаба прыціснутай да грудзей. Такі лагічна не апраўданы кантраст выклікае непатрэбныя асацыяцыі з унутранай расслабленасцю чалавека. Пра яе, дарэчы, таксама нагадвае нейкая жалобная лінія брывей, якія сышліся ля пераносіцы.

Можа, скульптар меў на ўвазе ахвяры, цаной якіх іншы раз дасягаюцца поспехі? Тады ў дадзенай сітуацыі варта было б яшчэ больш удакладніць думку.

Гаворка пра спрэчныя моманты новай работы А. Заспіцкага вядзецца таму, што твор пераконвае ў дастатковай сіле аўтара, у яго здольнасці пазбавіцца недахопаў. Хочацца спадзявацца, што смелае пачынанне А. Заспіцкага ў рабоце над абагульненым вобразам сучаснасці знойдзе свой працяг.

АНАЛАГІЧНЫ абранаму А. Заспіцкім сюжэтны матыў — імклівы рух наперад чалавека з пяцікутнай зоркай у руцэ — больш канкрэтна ўвасоблены ў кампазіцыі А. Анікейчыка «Заклік». Тут ужо і час, і сэнс дзеяння, і аблічча героя гранічна ясныя.

Перад намі будзёнавец часоў грамадзянскай вайны. Пяцікутная зорка ў яго ўскінутай руцэ — канкрэтны сімвал Савецкай краіны. Парыў чырвонаармейца наперад зусім слушна трактуецца як заклік адстаяць заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтым выпадку вельмі дарэчы бурная дынаміка форм.

Каб лепш перадаць атмасферу грамадзянскай вайны, скульптар скарыстоўвае характэрныя для таго часу стылістычныя асаблівасці манументальнай скульптуры. Аўтар робіць цела ўмоўным, агрубленым да такой ступені, што магутны торс байца з вялізнымі пукатымі мышцамі і ўкарочаныя рукі каласальнай таўшчыні пераўтвараюцца ў груду каменных блокаў, праз якую прабіваецца жывое жыццё. Перад намі ўжо як бы не рэальнасць, а помнік у стылі дваццатых гадоў, праўда, блізкі нашай сучаснасці і сваім высакародным зместам, і некаторымі стылістычнымі рысамі.

Звярну ўвагу на тое, што імкненне да геаметрызму форм — хаця і ў меншай, чым у гэтай рабоце А. Анікейчыка, ступені — стала тыповым для многіх сучасных твораў на гераічную тэму. А. Анікейчык знайшоў зручны выпадак, які цалкам апраўдвае яго мастакоўскае рашэнне давесці геаметрызм літаральна да мяжы. Праўда, імітуючы гатовы стыль, скульптар тым самым спрашчае пошукі ўласнай мовы.

Калі мы звяртаемся да тэматычнай шматфігурнай кампазіцыі на тэму гераікі Кастрычніцкай рэвалюцыі або Вялікай Айчыннай вайны, дык заўважаем падкрэсленыя пошукі скульптарамі сучаснай пластычнай мовы.

У гэтых пошуках відавочна добрае імкненне ўлавіць біццё пульсу сённяшняга дня, перадаць чоткасць, дакладнасць рытмаў сучаснасці. І абагульненасць форм у пэўнай меры тут апраўдана.

У. Папсуеў гаворыць стрымана, скупа. Паказаная ім на выстаўцы кампазіцыя «1905 год» — адна з серыі работ на тэму рэвалюцыі, над якімі аўтар працуе ўжо досыць доўгі час. У серыю ўваходзяць кампазіцыя «1919 год» і «Ленін у Кастрычніку». Рашэнне паказанай на выстаўцы новай кампазіцыі ў пэўнай меры абумоўлена папярэднімі.

Л. Гумілеўскі ў «Партызанскай сям'і» гаворыць вельмі лаканічна, геаметрызуючы формы ў народным стылі (яшчэ б, такі ўдзячны матэрыял — дрэва!), быццам падкрэсліваючы народны характар самога партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

А. Веліксонаў у кампазіцыі «Сям'я бацькі Міная» скарыстоўвае рэзкасць форм, каб узмацніць адчуванне трагізму сітуацыі. Але стылізаваныя формы ў яго нясуць адбітак некаторай халоднасці. І наогул такі шлях пакуль што не прыводзіў да стварэння вялікіх, шматпланавых вобразаў.

КАЛІ ў работах на гераічную тэму пераважаюць рэзкія, завостраныя лініі і формы, дык у лірычных — наадварот — плаўныя, пявучыя, якімі адцяняюцца задушэўныя ноткі.

Характэрная ў гэтым плане кампазіцыя І. Хоміча «Чаканне». Яе станоўчая рыса — надзвычай эфектнае скарыстанне структуры і колеру самога матэрыялу — дрэва. Вобразнае рашэнне кампазіцыі грунтуецца на кантрасце: чароўная жаночая галоўка плаўна выступае з грубай масы патрэсканага дрэва. У выніку — побач з неапрацаванай цёмнай драўнінай тонка апрацаванае разцом жаночае аблічча здаецца яшчэ больш пяшчотным. Адмысловы малюнак драўніны, яе светлых і цёмных палос, якія то выпрамляюцца ў роўны рад, то скручваюцца ў колцы, стварае ўражанне ажурнага вэлюма. І вэлюм гэты быццам скрадвае некаторую рэзкасць абрысаў твара. Вельмі дарэчы скарыстаны ў гэтай рабоце і трэшчыны дрэва, якія праменнямі разбягаюцца ад сэрцавіны ў бакі; находзячы на кудзеры дзяўчыны, гэтыя праменні нагадваюць нейкі своеасаблівы дэкаратыўны ўбор. Нават драбнюткія алюмініевыя заклёпкі, якія хаваюць чэрветочыну ў драўніне, скарыстаны ў вобразным ладзе твора: на фоне зялёна-рудога колеру драўніны кроплі метала ствараюць уражанне халоднага тумана, падкрэсліваюць атмасферу таямнічасці дзявочага чакання. Шкада толькі, што само вобразнае рашэнне вар'іруе ўжо больш-менш вядомыя. Хацелася б ад скульптара і большай самастойнасці ў пошуках тыпажу. Наш жа сучаснік зусім не такі просты і «стандартны», каб пра яго гаварыць аднастайна і павярхоўна.

Прыгадаем у гэтай сувязі паказаныя на выстаўцы партрэт кампазітара М. Чуркіна работы Г. Мурамцава, партрэт кампазітара Я. Цікоцкага работы І. Міско, партрэт Я. Коласа работы А. Заспіцкага. Гэтыя і іншыя аўтары партрэтаў засяроджваюць увагу менавіта на інтэлектуальным багацці, непаўторных своеасаблівасцях асобы персанажаў партрэтаў.

СЯРОД скульптурных партрэтаў Ільіча выдзяляецца створаны З. Азгурам. Гэта вялікая па памерах галава. Аўтар ляпіў яе адразу ў задуманым памеры, без папярэдняй мадэлі і павелічэння. Тут яму, мабыць, памог вопыт работы з групай калег над буйнамаштабным партрэтам правадыра для Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі ў Мінску. Паказаны ж на выстаўцы ў музеі партрэт Леніна выкананы мяккa, маляўніча. Захавана красамоўная жывасць форм. Знята ўнутранае напружанне, якое звычайна ўласціва партрэтам Ільіча ў скульптуры.

Праўдзіва перададзены ленінскія рысы і ў партрэтах правадыра рэвалюцыі, створаных В. Палійчуком і В. Слінчанкам. Работы гэтых аўтараў пры знешнім непадабенстве аб'яднаны беражлівымі, удумлівымі адносінамі да дакументальнага матэрыялу.

В. Слінчанка добра скарыстаў у сваім партрэце Ільіча колер чырвонага дрэва. Гэты колер гарманічна спалучаецца з падфарбоўкаю охрай. Таму скульптура набыла прыемны, роўны, цёплы тон.

У той жа час выстаўка пераконвае, што і ў партрэтны жанр пранікаюць тэндэнцыі дэкаратывізму. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць работа Т. Мацвеенкі «Даярка» і паасобныя творы іншых аўтараў. Партрэты такога плана выйграюць у чыста знешняй ярка-

# ЧАРАЎНІК



На здымку (справа налева): літографы П. Яўсееў і В. Цылкоўскі.

**Адказная і незвычайная прафесія ў Пятра Фёдаравіча Яўсеева. Ён — адзін са старэйшых літографаў нашай рэспублікі. Працуе майстрам эстампнага цэха мастацкага камбіната Мастацкага фонду ў Мінску. Яго добра ведаюць беларускія мастакі-графікі, асабліва тыя, што працуюць у тэхніцы літаграфіі. Іх творы, выкананыя на літаграфскім камені, Пятро Фёдаравіч пераводзіць на паперу. Не так гэта проста, як здаецца, зрабіць літаграфскі адбітак. Не так проста падрыхтаваць камень для работы мастака. Тут патрэбны вопыт, майстэрства і — што самае важнае — добрае разуменне пошуку мастака, чый твор пераносіш з каменя на паперу.**

**Пятро Фёдаравіч друкаваў літаграфіі для мастацкіх выставак такім нашым графікам, як А. Паслядовіч, Л. Ран, Г. і Н. Паплаўскія, П. Дурчын, С. Герус, А. Кашкурэвіч, С. Раманаў, М. Бельскі, І. Раманоўскі, Я. Красоўскі. Мне, як мастаку, таксама давялося з удзячным здзіўленнем назіраць, як чарадзеіць Пятро Фёдаравіч, друкуючы мае літаграфіі, давялося пераканацца, як паважае і разумее ён «дробязі» нашай працы.**

**Ды што казаць! Эстампы нашых мастакоў, да якіх дакраналіся клапатлівыя рукі Пятра Фёдаравіча, экспануюцца на рэспубліканскіх, усесаюзных мастацкіх выстаўках і далёка за межамі нашай краіны. Некаторыя з іх рэпрадуцыраваліся ў часопісах «Творчество», «Искусство» і ў іншых выданнях. Нядаўна на Усесаюзнай выстаўцы эстампа ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, якая адбылася ў Вільнюсе, аўталітаграфіі Г. Паплаўскага атрымалі прэмію Саюза мастакоў СССР. Гэтыя лісты друкаваў Пятро Фёдаравіч Яўсееў.**

**Пятро Фёдаравіч вельмі часта не ведае пра тое, на якія выстаўкі трапілі зробленыя ім адбіткі, якіх поспехаў дасягнуў той ці іншы графік. Але калі даведваецца пра гэта — ганарыцца і радуецца, як дзіця, бо гэта ж і ягоная доля працы, хай сабе маленькая ў параўнанні з працаю мастака, але такая неабходная, ёсць у агульным поспеху нашага мастацтва графікі. З якім задавальненнем віншуе ён мастака з творчай перамогай.**

**Яўсееў заўсёды гатовы памагчы мастаку, надрукаваць яго твор, — і ўсё гэта з любоўю, з павагай. А ўзровень яго работы друкара-літографа — надзвычай высокі.**

**Калі б гэта залежала ад мяне, я змяшчаў бы імёны такіх майстроў у каталогах нашых выставак побач з імёнамі мастакоў, чые работы памагаў выводзіць у свет сціплы літограф!**

**Здараюцца ж выпадкі, калі ад нявопытнасці літографа цікавыя работы мастакоў гінуць і іх немагчыма аднавіць. Гэта ж стольки аперацый павінны быць выкананы літографам дакладна: падрыхтоўка каменя, шліфоўка, хімічная апрацоўка пасля нанясення малюнка мастаком, траўленне кіслатой, змыванне, перакатка фарбаю, нарэшце — друкаванне...**

**У Пятра Фёдаравіча адбіткі заўсёды атрымліваюцца выдатныя. Яму добра знаёма, што такое натхненне ў працы, што такое агульная радасць з прычыны атрымання добрага адбітка.**

**Ён працуе ў эстампным цэху разам са сваім вучнем і памочнікам Віктарам Цылкоўскім. За апошняе дзесяцігоддзе, што прайшло з часу заснавання цэха, надрукаваў шматтысячныя тыражы розных эстампаў: партрэты Маркса, Энгельса, Леніна, членаў Палітбюро ЦК КПСС, герояў-камсамольцаў, вучоных, пісьменнікаў, кампазітараў, літаграфіі для дзяцей на казачныя тэмы. Усе яны выкананы па арыгіналах, створаных беларускімі мастакамі.**

сці, хоць і застаюцца аднапланавымі.

Найбольш прыцягальная, паэтычная з работ дэкаратыўнага плана на выстаўцы — кампазіцыя «Адпачынак» Н. Якавенка. Праўда, гэта не партрэт. Матыў не новы — добра выяўленая пластычная прыгажосць гнуткага цела юнай купальшчыцы. Але як хараша, як жыва абыграны традыцыйны скульптурны матыў! Наколькі гарманічна падфарбаваны цёплы тон скульптуры блакітам. Фарба стварае ўражанне ценю на асветленым сонцам целе. А як правільна ўлічана фактура. Цёмныя фактурныя штрыхі асязальна падкрэсліваюць паўнату форм. Хочацца толькі сказаць: Н. Якавенка здольная да больш яркага, больш разнастайнага адлюстравання рэчаіснасці, але, на жаль, абмяжоўваецца ў сваіх пошуках. Гэта датычыць і жанру, і матываў яе творчасці.

Сур'ёзныя творчыя задачы можна вырашаць у вельмі сціплай, здавалася б, рабоце. На памяць прыходзіць зусім невялікая работа студэнта трэцяга курса Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута М. Палякова «Блакітны колер». Маленькая жанравая сцэнка — жанчыны-маляры за працай — а колькі цёплых водгукаў ад самых розных гледачоў! Падкупляе прастата, шчырасць, непрадузятасць сапраўды мастакоўскага меркавання аб убачаным. Уражвае тонкая назіральнасць.

Звычайны рабочы момант: адна з жанчын, узняўшыся на лесвічку, мачае пэндзаль у фарбу, каб фарбаваць сцяну, другая — унізе — заклапочана, каб памагчы сяброўцы. Быццам нічога асаблівага не адбываецца. Але як жыва схоплены позы, як натуральна перададзены рабочыя рухі жанчын-маляроў.

Ці не ад стомленасці, якая з'яўляецца ад усялякіх навацый, не падмацаваных сур'ёзнымі пошукамі, маленькая студэнцкая работа выклікала ў гледачоў такую цікавасць?

Знаходзяцца, праўда, скептыкі, якія пераконваюць, што работа М. Палякова — усяго толькі эцюд, што сваёй «жывапіснай» манерай яна нагадвае творы П. Трубяцкога. Па-першае, мабыць не трэба даказваць: **ТАКІ** эцюд — варты ўвагі і павагі. Па-другое, наўрад ці тут абгрунтаванае параўнанне з работамі славутага скульптара. Пластыка П. Трубяцкога літаральна вытанчаная. Тут жа — мазок шырокі, грубаваты, у духу самога рабочага працэсу і характару адлюстраваных людзей. А самае галоўнае (і тут я не супраць параўнання з П. Трубяцкім ці з кім іншым з майстроў!) — у эцюдзе добра адчуты і перададзены дух часу. Пластыка гучыць цалкам пераканаўча. Яна заснавана на кантрасце мяккіх форм фігур і графічна рэзкіх ліній сілуэта, стылізаванай лесвічкі без прыступак, а таксама вострых ліній пэндзляў. Нарэшце, добра скарыстаны колер бронзы. Нават незвычайная назва — «Блакітны колер» — вобразна дапаўняе задуму аўтара.

ВОСЬ такія думкі ўзнікаюць, калі падводзіш вынікі ўражанняў, якія перажываеш, знаёмячыся са скульптурай на выстаўцы. Ад усёй душы хочацца, каб добры густ, вялікая патрабавальнасць да сябе і тонкае разуменне спецыфікі скульптурных жанраў (інакш кажучы — сапраўдная прафесіянальная культура!) — спадарожнічалі кожнаму з нашых скульптараў.

І яшчэ — глыбокае вывучэнне кожным скульптарам нашага шматграннага і бурлівага жыцця.

**Пятро Фёдаравіч ганарыцца, што яму выпала да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча друкаваць разнастайныя літаграфскія партрэты вялікага правадыра. Арыгіналы гэтых партрэтаў створаны такімі добрымі майстрамі малюнка, як Я. Зайцаў, У. Сухаверхаў, І. Раманоўскі, І. Ціханаў, М. Лісоўскі, Ю. Выхадцаў, М. Бельскі, Г. Лойка і інш.**

**Зярністы літаграфскі камень тоіць у сабе вялікія магчымасці, якія не ва ўсім яшчэ раскрытыя. Колькі тут прастор для эксперыментаў! Мастак можа карыстацца самай разнастайнай тэхнікай — вільготны пэндзаль, літаграфскі аловак, пяро, вышкрабанне скальпелем, накладанне разнастайных фактур. Ва ўсіх гэтых пошуках мастаку паможа дабіцца вынікаў літограф. Пятро Фёдаравіч выдатна разумее, як гэта складана мастаку шукаць новае, нязведанае. Таму і хвалюецца разам з мастаком. Таму і карыстаецца такой павагай у асяроддзі графікаў.**

**Шэсцьдзесят гадоў жыцця пражыты недарэмна. У гады Вялікай Айчыннай вайны бараніў радзіму ад ворагаў — на фронце. У гады міру — памагае мастакам ствараць сапраўды масавае мастацтва эстампа. Ёсць яго кропля ўдзелу ва ўздыме аўтарытэту нашай літаграфіі. Кропля... Але — важкая...**

**У. САКАЛОЎ,**
**мастак.**



НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ГЛЫТОК КРЫНІЧНАЙ ВАДЫ

ГАЛОЎНАЕ для опернага спевака, канечне, голас...

У Ігара Сарокіна драматычны барытон. Калі ён спявае, гэта захапляе, хвалюе. Прафесіяналы напісалі б, што ён выразна гучыць на ўсіх рэгістрах. І сапраўды — гучыць! Але хочацца сказаць, што калі слухаеш Ігара, яго свабодны, раскаваны, прыгожы голас бярэ ў палон, і ты, нібы зачараваны, паглыбляешся ў свет гукаў, які цяжка апісаць. Ну як, напрыклад, апісаць паветра пасля навальніцы?

І ўсё ж такі пра голас Ігара Дзмітрыевіча Сарокіна напісана шмат, і я не ўтрымаюся і прывяду цытаты.

Францыя. Газета «Юманітэ»:

«Ігар Сарокін прадэманстраваў свой цудоўны талент. Ён даносіць да слухачоў лепшыя традыцыі рускай вакальнай школы».

Данія. Газета «Берлінгске Афтэнавіс»:

«...Гэта прыгожы барытон, моцны ў сваім драматычным гучанні».

Швецыя. Газета «Дагенс Нюхетэр»:

«Ігар Сарокін зачараваў публіку сваім цудоўным голасам, а магчыма яшчэ больш сваёй каласальнай адоранасцю, сваім юным захапленнем і гарачым тэмпераментам. Яго распасцёртыя рукі, здавалася, хацелі прыціснуць да грудзей увесь свет».

Пра яго пісалі газеты Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Фінляндыі, Турцыі і, канечне, нашы газеты. Здаецца, усёй краіны.

У оперы «Рыгалета» Сарокін — Рыгалета. Прыдворны блазан, разумны і злы.., Рыгалета ненавідзіць герцага не толькі таму, што ён герцаг, але і таму, што ён, Рыгалета, — яго ўласнасць. І Рыгалета ў выкананні І. Сарокіна па-свойму змагаецца за сваю чалавечую годнасць. Ён зводзіць герцага з вяльможамі, зласлівіць і трыумфуе, калі яны ненавідзяць адзін аднаго. Ён разбэшчвае герцага, робячы яго, па сутнасці, сваім блазнам. Але сродкі, якімі Рыгалета карыстаецца, урэшце абарочваюцца жахлівай жорсткасцю супраць яго; ён страчвае адзінае, што ў яго ёсць, — дачку.

Ігар Сарокін у гэтай ролі захапляе сваім мяккім глыбокім голасам, сапраўдным акцёрскім майстэрствам, драматычным талентам.

Зусім нядаўна Ігар Дзмітрыевіч вярнуўся з Берліна, дзе на сцэне Дзяржаўнай оперы выконваў партыю Рыгалета. «Ігар Сарокін — адзін з лепшых Рыгалета, якіх мне даводзілася чуць», — сказаў пасля гастроляў дырыжор тэатра Хайнц Рэгнер.

Гэта была не першая паездка беларускага спевака ў сталіцу Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У мінулы яго прыезд адна з газет пісала: «Сарокін — цудоўны ў ролі Рыгалета, прыдворны блазан, які ўтойвае трагедыю пад прафесійнай усмешкай. Акрамя таго, у яго прыгожы, звонкі, гнуткі голас...»

Калі я сустракаю Ігара Дзмітрыевіча на вуліцы, у сучасным аднабортным касцюме, у нейлонавай сарочцы з гальштукам, з тварам адкрытым і спакойным, дык заўсёды міжволі думаю: дзе, ну, дзе дрэмле ў гэты момант тэмпераментны, палкі Эскамільо, мужны і высакародны князь Ігар, загадкавы і сумны Дэман, такі нацыянальны характар, як Апанас з оперы Я. Цікоцкага «Алеся?»

Дзе?..

І перакідваючы «масток» ад Ігара Сарокіна — сучаснага опернага спевака і чалавека да створаных ім вобразаў, я ўгадваю знаёмыя мне рысы ў князі Ігары. Ніякай манументальнасці, да якой мы так прывыклі ў оперы. На сцэне — чалавек, характар складаны і драматычны. Так, князь Ігар — нацыянальны рускі герой, ён гатовы на любыя ахвяры, на любыя подзвігі ў імя сваёй радзімы, свайго народа. Але яму чужая поза.

Канечне, голас для опернага спевака — гэта вельмі важна. Але ці толькі голас?..

Успамінаю: мы імчым сярод вельмі падобных на мора лугоў, недзе ўдалечыні яны робяцца небам. Усё пафарбавана шэрым. Холадна, і там, за акном, і ў вагоне. Мы едзем з канцэртам у невялікі пасёлак. Нехта «здабыў» карты, нехта праглядае газеты. А Ігар уладкаваўся ля акна і спявае. Вельмі ціха, так ціха спявае, што я ледзь чую мелодыю, хаця сяджу побач: «Я тот, чей взор надежду губит; я тот, кого никто не любит; я бич рабов моих земных; я царь познанья и свободы; я враг небес, я зло природы»...

Мне даводзілася слухаць многіх оперных спевакоў — выканаўцаў партыі Дэмана. Для іх Дэман быў, перш за ўсё, носьбітам зла. Дэман Ігара Сарокіна — бунтар, ён адзінокі і пакутуе ад гэтай адзіноты. Ён пратэстуе супраць неба... Артыст з уласцівай яму сур'ёзнасцю і пераканаўчасцю стварае пластычны малюнак ролі ў поўнай адпаведнасці з дзівоснай музыкай А. Рубінштэйна.

Дэман — вобраз цяжкі для выканаўцы. Мне нават іншы раз здаецца, што канчатковае яго прачытанне ляжыць недзе ў бясконцасці. І мне падабаецца, што Ігар Дзмітрыевіч адважна становіцца на гэты шлях...

Апошняя работа Ігара Сарокіна — Шаклавіты ў оперы М. Мусаргскага «Хаваншчына», прэм'еру якой зусім нядаўна паказаў Беларускі тэатр оперы і балета.

Першы спектакль... Ігар Дзмітрыевіч у зале сярод гледачоў. Спявае другі, а ён прыйшоў паслухаць, падумаць, пахваляваіцца.

— Можаце паважаць мяне, можаце не паважаць, — аднойчы ў парыве шчырасці сказала мне знаёмая актрыса, — але я хачу, каб другая выканаўца выступіла горш за мяне. Калі я бачу, што ў яе нешта не ладзіцца, я не тое, каб радавалася, але адчуваю нейкую палёгку.

Мабыць, і такое ў артыстаў даравальнае.

Я не пыталася ў Ігара Дзмітрыевіча, якія пачуцці ён перажывае, калі спявае другі выканаўца, але нам даводзілася гаварыць аб таварышах па рабоце. Амаль усе ў яго характарыстыцы выглядалі Шаляпінымі, Собінавымі, Няжданавымі... Ігар Сарокін адорваў іх такімі патрэбнымі кожнаму спеваку і чалавеку якасцямі. Праўда, можа пры непасрэднай сустрэчы ён гаворыць ім рэзкія словы, але «за вочы» — ніколі. Вось і сёння на першым спектаклі «Хаваншчыны» я сяджу побач і бачу, як прагна слухае Сарокін свайго «суперніка», як увесь ён там, на сцэне, увесь — напружанне і ўвага, нібы гэта дапамагае Юрыю Бастрыкову.

Аднойчы я спытала Ігара Дзмітрыевіча, што самае-самае галоўнае, на яго думку, у жыцці? Ён адказаў: «Даваць людзям больш, чым яны ад цябе чакаюць».

Спяваць яму даводзіцца не так ужо часта. А калі не спяваць, дык што гэта за жыццё?.. Затое, калі прыходзіць, нарэшце, чарга!..

Ігар Сарокін — Шаклавіты. Вобраз у оперы невялікі. Праўда, ён — драматургічная спружына яе. Шаклавіты — прадстаўнік новага часу. Яго хвалюе лёс Расіі: «Ах ты в судьбине злосчастная, родная Русь. Кто, кто тебя, печальницу, от лихой беды спасет?..» Ён разумее, што цар Пётр — іменна тая сіла, якая зараз так патрэбна яго радзіме, і таму ўсёй душой за Пятра. Вобраз складаны, супярэчлівы... І Ігар Сарокін не спрабуе ператварыць яго ў фігуру прымітыўную, прасталінейную.

Вядома, для опернага артыста патрэбныя і голас, і драматычны талент, але ці ўсё гэта?..

Іншы раз даводзіцца чуць, што «нармальны» добры чалавек не бывае па-сапраўднаму таленавітым. І з-за гэтага некаторыя вельмі пасрэдныя асобы прыдумляюць сабе ўсялякую «незвычайнасць», «выключнасць», якая адрознівала б іх ад астатніх людзей. Як не нагадаць прыхільнікам гэтай канцэпцыі, што жыў на зямлі вялікі пісьменнік Антон Паўлавіч Чэхаў.

Сярод мноства сувеніраў, падараваных Сарокіну ў многіх гарадах і краінах, ёсць драўляная скульптура — «Вечна спяваючы вікінг». Я вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла яе. Нарэшце-такі, падумалася мне, ёсць загаловак для будучага артыкула, і гэты загаловак будзе даволі дакладна выказваць тое, што мне хочацца расказаць пра артыста. А потым, калі пачала пісаць, адмовілася ад гэтай назвы, бо зразумела: без расказу пра Сарокіна-чалавека мне не абысціся.

У мінулым годзе разам з вялікай групай беларускіх артыстаў мне давялося прыняць удзел у гастрольнай паездцы па гарадах і сёлах РСФСР. Гэта была цікавая паездка, хоць і нялёгкая. Каб пазнаёміць з беларускім мастацтвам як мага больш людзей, мы разбіліся на некалькі груп. У нашай былі оперныя артысты, чытальнікі, музыканты. Мы забіраліся ў самыя далёкія раёны, давалі канцэрты ў сельскіх клубах.

Я ведала ўсіх, мяне — ніхто, хіба што па прозвішчу. Але, як заўсёды бывае ў дарозе, мы хутка пазнаёміліся. Кожны рабіў сваю справу: яны спявалі, танцавалі, а я пісала. І ўсё было б, напэўна, цудоўна, калі б я не захварэла. Захварэла цяжка. На пачатку я яшчэ стаpалася хадзіць на ўсе канцэрты, але аднойчы зразумела, што больш не магу, і засталася ў гасцініцы. А праз паўгадзіны вярнуўся Ігар Дзмітрыевіч. Ён адкрываў канцэрт, у канцы зноў павінен быў выйсці на сцэну, і ўсё-такі прыйшоў, першым пачуўшы, што мне дрэнна.

Дарэчы, іменна тады, спрабуючы хоць як-небудзь адцягнуць маю ўвагу, Ігар Дзмітрыевіч расказаў сваю няхітрую біяграфію. Рабочы хлапец. Любіў спяваць. Удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Калі ў Вялікім тэатры Саюза ССР быў аб'яўлены конкурс, паспрабаваў свае сілы і быў залічаны ў хор. Потым — саліст оперы... Нялёгкі шчаслівы шлях.

За гэтыя гады Ігар Сарокін стаў не толькі выдатным оперным спеваком, глыбокім тлумачальнікам вакальнай лірыкі. Ён цудоўна спявае рамансы П. Чайкоўскага і С. Рахманінава, Р. Шумана і Р. Гліэра. Сёння нямала песень напісана спецыяльна для Сарокіна і пры ўдзеле Сарокіна. У праграме яго сольных канцэртаў значнае месца займаюць творы беларускіх кампазітараў.

У той вечар, пасля канцэрта, нам трэба было праехаць каля ста пяцідзесяці кіламетраў, каб вярнуцца ў абласны цэнтр. Я ведала гэтыя мясціны з дзіцячых гадоў і прапанавала спыніцца ля крыніцы з забаўнай назвай «Макай», каб напіцца халоднай пругкай вады. Я расказала сваім спадарожнікам цудоўную легенду аб гэтай незвычайнай крыніцы, аб тым, што вада яе мае незвычайную гаючую сілу.

Святло ад фар аўтобуса разразала густую, як жэле, чорную ноч. Блакітны тытунёвы дымок імчаў разам з намі, і я чула далёкі голас Сарокіна, які прасіў не курыць. Потым усе задрамалі і хоць на ўхабінах нас кідала, нібы лядашчую лодку на хвалях, усе зноў засыналі, як толькі трапляўся роўны ўчастак.

А мне, натуральна, было не да сну. Недзе на паўдарозе я азірнулася і ўбачыла, што Ігар Дзмітрыевіч таксама не спіць. Ён беражна трымаў у руцэ кубак з крынічнай вадой...

**І. ПІСЬМЕННАЯ.**



# Джэд Кайлі
# Хэмінгуэй
## УСПАМІНЫ СТАРОГА ТАВАРЫША

„ТЫ МОЖАШ расказваць пра мяне ўсё, што лічыш патрэбным і як ты помніш». Так пісаў восенню 1964 года Джэду Кайлі Эрнест Хэмінгуэй, які жыў у той час на кубінскай віле Фінка Віджыя. «Толькі, — працягваў Хэмінгуэй, — не разлічвай, што я стану гэта пацвярджаць і ўхваляць... Удачы табе ва ўсім, пра што пішаш...».

Аўтар «Успамінаў старога таварыша», амерыканскі журналіст Джэд Кайлі ведаў Эрнеста Хэмінгуэя на працягу сарака гадоў. Яны сустракаліся ў Чыкага, у Парыжы, на Кубе. І, хаця гэтыя сустрэчы часта падзялялі многія гады, Д. Кайлі ўдалося стварыць па-свойму цэласны воблік вядомага пісьменніка.

Аповесць не прэтэндуе на поўнае асвятленне альбо даследаванне творчага шляху Э. Хэмінгуэя. Хутчэй — гэта спроба дапоўніць біяграфію пісьменніка новымі, раней невядомымі фактамі, пададзенымі праз выключна асабістае ўспрыняцце аўтара.

Д. Кайлі абраў своеасаблівую манеру апавядання. Не хаваючы свайго захаплення «Папам Хэмінгуэем», аўтар нібы «непачціва» ставіць пад сумненне вартасці свайго героя, як чалавека і як літаратара.

Напісаныя з грубаватай адкрытасцю і гумарам успаміны ствараюць цікавы вобраз Хэмінгуэя, у першую чаргу як чалавека, які апантаны страсцю ўсё ведаць, усё спазнаць самому, як чалавека, які ненавідзіць рэкламную шуміху, чалавека смелага і бескампраміснага.

Аповесць падкупляе чытача шчырасцю інтанацый, дадаючы да шырокавядомага партрэта пісьменніка новыя яркія дэталі. Напісаная Д. Кайлі яшчэ пры жыцці Хэмінгуэя, яна выйшла ў свет, калі не было ў жывых ні аўтара, ні яго героя.

## І ЎЗЫХОДЗІЦЬ СОНЦА

Ён стаяў поплеч са мною ля стойкі бара. Гэта быў рослы хлапчына. Гадоў дваццаці пяці, вырашыў я. Яму не шкодзіла б пагаліцца, ды і пастрыгчыся таксама. Куртка на ім выглядала так, быццам ён спаў не распранаючыся. Але адразу было відно, што ён не з тых, хто вечна тырчыць ля стойкі. Ён тыцнуў мне сваю руку. Я не хацеў бы, каб такой рукой тыцнулі мне ў твар, калі яна сціснута ў кулак. Магутныя кісці вылезлі з рукавоў, відна была густая чорная поўсць. Стрыжаныя вусы нагадвалі бровы. Увесь ён свяціўся ўсмешкай. Прыемная ўсмешка, падумаў я. Калі ён пацснуў мне руку, я нават зморшчыўся. Вось гэта лапа!

— Здароў,—сказаў ён.
— Здароў.
— Помніш мяне?
— А як жа!—адказаў я.

Што за хлопец, падумаў я. Напэўна, мы з ім сустракаліся ў маёй установе. У мяне на Манмартры быў начны клуб, так што мяне ўсе ведалі. Манера трымаць шклянку выдавала ў ім янкі. Смяртэльная хватка. У Штатах існаваў сухі закон, і ўсе турысты пілі іменна так. Быццам у іх вось-вось адбяруць шклянку. Той яшчэ закон, падумаў я. А ўслых сказаў:

— Вып'ем?
— А чаму б не?

Ён залпам апаражніў посуд. Што там было, я не разгледзеў. Рука яго цалкам закрывала шклянку. Альфонс прынёс нам два fines *. Адна рука ў яго была забінтавана. Ну і лапа! Цікава, чым ён займаецца? Напэўна, адзін з тых скульптараў, што жывуць на Левым беразе.

У кішэні ў яго, відаць, не густа. Значыць, не турыст. Здаецца, у нейкім бары я яго сустракаў. Не дурань выпіць. Пачакаем, сам развяжа язык.

— Чытаў тваю пісаніну ў «Бульвардзье»,—прамовіў ён.

Ага, падумаў я, зусім іншая рэч.

Мы з Эрскінам Гвінам на Елісейскіх Палях выдавалі сімпатычны часопісік. Я быў у ім асноўным пісьменнікам. Людзі чыталі «Бульвардзье», а пасля прыходзілі на Манмартр да аўтара. Можна сказаць, удзень я служыў мастацтву, а ўначы—залатому цяляці. Я таксама любіў пагаварыць аб сваёй пісаніне. Я павесіў сваю кульбу на парэнчы і распарадзіўся «паўтарыць». Бо нічога так не любяць пісьменнікі, як шчырую крытыку з боку незнаёмага чалавека.

— Ну і як, падабаецца?—спытаў я.
— Не.
— Вось яно што,—сказаў я.—А чым вы займаецеся, акрамя выпіўкі?
— Пішу,—сказаў ён.
— Што іменна?
— Кнігу.
— Вось яно як,—вымавіў я.

Недурны хлопец, падумаў я. Відаць, пражыў у Парыжы цэлыя тры тыдні і цяпер піша пра гэта кнігу. Так рабілі многія. Сядзелі ў кабачках каля Сабора, папівалі fines і пярнó ды пісалі кніжкі пра норавы парыжскія. А пасля быццам пад зямлю праваліваліся. Сам я жыў у Парыжы ўжо шэсць гадоў і ўсё-такі не паспеў ўведаць яго як след, каб напісаць пра яго кнігу. А можа, у тым і бяда? Чым больш жывеш у горадзе, тым менш хочацца пісаць пра яго.

— Падабаецца горад?—спытаў я.
— Не,—сказаў ён.

А пайшоў бы ты!. Вось яшчэ выскаляка. Хто гэтаму паверыць, што амерыканцу не падабаецца Парыж? Недарэмна і мае крэмзы яму не да спадобы. Відаць, адзіны орган смаку ў яго—язык. Я павесіў сваю малакскую кульбу на руку і ўсміхнуўся яму той усмешкай, якой страчаў наведвальнікаў свайго начнога клуба.

— Рады быў пабачыць вас, док,—вымавіў я.

Ён зарагатаў і ляпнуў мяне па спіне. Да гэтага часу адчуваю гэтую ягоную ласку.

— Я Хэмінгуэй,—сказаў ён.

Ах, вось ячо што, падумаў я. Гэта ж дружбак Эрнест Мілер Хэмінгуэй з Оўк-Парка! Каго ж яшчэ могуць так зваць. Не бачыліся з самой вайны. Я ведаў толькі, што ён дзесьці ў Еўропе. Ён, як і я, у семнаццатым паступіў у французскі «Чырвоны Крыж». Толькі ён служыў у італьянскім аддзеле. Чуў я, што ён уступіў у італьянскую армію і быў цяжка паранены. Я зноў павесіў кульбу на парэнчы стойкі і падаў яму руку. Ды не, рука ў яго як рука.

— А я цябе не пазнаў з фальшывымі вусамі,—прамовіў я.
— Ды і пастава мая ля стойкі змянілася.

Так яно і ёсць, падумаў я. Раней ён абапіраўся нагой на перакладзіну. Недарэмна я яго і не пазнаў. Напэўна, гэта ў яго з-за хваробы.

— Вып'ем,—сказаў я гучна.
— Давай,—сказаў ён яшчэ гучней.

Ні кроплі не перамяніўся. Помню, ён яшчэ быў заядлым баксёрам-аматарам. Часта гаварыў, што калі-небудзь стане чэмпіёнам у цяжкой вазе. І мог бы ім стаць. Але рана, напэўна, выціснула гэтую думку з яго галавы.

— Усё спадзяешся стаць чэмпіёнам?—спытаў я.
— Але,—адказаў ён.—Толькі не па боксе.
— Па барацьбе?
— Не,—сказаў ён.
— А ў якім жа тады відзе спорту?
— У літаратуры.
— Ого!—усклікнуў я.

Як заўсёды, хоча пацэліць у месяц, падумаў я, не ўгаманіўся. Вечна лезе ў бойку. Бывала, яшчэ школьнікам ён зарабляў сабе пяцёрку-другую, працуючы ў спарынгу з прафесіяналамі-баксёрамі са спартыўнай школы О'Конела. Яму напляваць, што яны былі вышэйшыя за яго. Хлопец—сіла. Што ж, ён можа разлічваць на мяне, як на секунданта. Літаратурны рынг мне знаёмы. Вы ж самі разумееце, што такое—сустрэць хлопца з аднаго горада. Магу ўладкаваць яго ў «Бульвардзье». Надрукавацца там—гэта марка. Калі ён умее пісаць гэтак жа, як піць, вазьму яго ў сваю канюшню.

— А што ў цябе на рахунку?

— Пакуль дробязныя размінкі,—сказаў ён.—Тры апавяданні, дзесятак вершаў і шасціраўндавік. Называецца «У наш час».

— Накауты?

— Не, сказаў ён.—Не хацеў псаваць рукі. Станаўлюся прафесіяналам у наступным матчы. Гэта васьміраўндавік. Пасля яго я траплю ў паўфінал. А потым, калі прарвуся на галоўныя спаборніцтвы і пачну выкалачваць у Штатах вялікую капейку, набуду яхту, куплю домік на трапічным востраве, стану рыбачыць.

— І пойдзеш на заслужаны ганаровы адпачынак чэмпіёна?—спытаў я.

— Не,—сказаў ён.—Буду адстайваць званне. Сперцінг. Першыя дзве хвіліны кожнага раўнда прыкідваюся слабачком, а на апошняй хвіліне—град смяротэльных удараў. Так робяць чэмпіёны.

Усё прадумана. Падобна, што так і зробіць, як сказаў.

— А што гэта за васьміраўндавік ты пішаш?
— «І зноў узыходзіць сонца»,—адказаў ён.
— Як-як?
— «І ўзыходзіць сонца»,—паўтарыў ён.

«Зноў узыходзіць сонца...» Гэ, д'ябал, якое тут у Парыжы сонца? Ды ты ж яго ніколі не бачыш, падумаў я. Кладзешся спаць, калі яно падымаецца, а прачынаешся, калі заходзіць. Ну і назвачка для кнігі пра Парыж!

— Назаві лепш «І ўзыходзіць месяц!»—параіў я.
— А Гертрудзе падабаецца,—сказаў ён.
— Якой Гертрудзе?
— Гертрудзе Стайн,—растлумачыў ён.—Яна—мой трэнер.

Ух ты, дым нябесны, падумаў я. Калі ён і надалей будзе слухаць выказванні гэтага левабярэжнага аракула, дык замест накаутаў стане выдаваць чатырохстопныя ямбы. Трэба, каб ён найхутчэй апынуўся за ракой, у цені дрэў Елісейскіх Палёў.

— Эрнест,—прамовіў я.—Што ты думаеш наконт аднараўндавага бенефісу ў «Бульвардзье»? Калі ў цябе ёсць што-небудзь кароценькае, прыемнае і з гэтакім жалезным канцом, я змагу гэта ціскануць. Капеек заграбеш не вохці колькі, затое набудзеш вядомасць.

— Рады буду памагчы твайму часопісу,—сказаў ён.

— Дарэчы, гэта і табе самому дапаможа,—працягваў я.—Ты толькі ўявi. Імя Эрнеста Мілера Хэмінгуэя побач з імёнамі Сінклера Льюіса, Скота Фітцджэральда і астатніх з нашай кампаніі.

— Проста Эрнеста Хэмінгуэя.

— О'кэй,—сказаў я.—Буду зваць цябе Дзетка Хэмінгуэй, калі хочаш. Ну, дык што ў цябе за чытво?

Ён зрабіў фінт левай, потым прамой правай і схапіў са стойкі вялізны пакунак.

— Гэта кароткі хук левай,—растлумачыў ён.—Даўжыня ўдару нейкіх восем дзюймаў, але адчувальны. Я—не я, калі гэта не накаут. Хоць, бадай, для «Бульвардзье» не падыдзе. Вы, хлопцы, выверніцеся, і ўдар пройдзе над галавой.

Як жа інакш, падумаў я. Адкрыўшы пакунак, я зірнуў на загаловак. «Забойцы»—так называлася апавяданне. Скажу, што для нас не падыходзіць. «Каханкі»—вось так бы падышло. Я заказаў яшчэ адзін раунд выпіўкі, каб набрацца сілы, і перагарнуў рукапіс.

Гэта быў суцэльны дыялог. Усё ішло добра, але нічым не канчалася. Банда гангстэраў збіраецца прышыць аднаго шведа. Яны заходзяць у кафэ, дзе швед звычайна абедае, і чакаюць яго, апусціўшы рукі ў кішэні. Потым выходзяць з кафэ. Швед прыходзіць пазней, чым звычайна, і, даведаўшыся, што яго шукалі, не можа праглынуць кавалка. Ідзе дахаты і кладзецца ў пасцель. На гэтым гісторыя канчаецца. Бедалага-швед чагосьці чакае, лежачы ў пасцелі. А вы самі быццам недзе ў паветры матляецеся.

— А астатняе?—спытаў я.
— Што астатняе?
— Астатняя частка апавядання?
— Кінь дурнем прыкідвацца,—сказаў ён.—Гэта такі стыль.

Ну, калі гэта яго стыль, падумаў я, трэба яго падправіць.

— У такім выглядзе я пасылаю гэтую рэч у Штаты, прамовіў ён.

— Слухай, Дзетка,—сказаў я.—Для Штатаў табе давядзецца прычапіць галівудскі канец. Паслухайся мяне, пашлі да гэтага шведа двух забойцаў з аўтаматамі. Швед моліцца. Яны выходзяць з шафы і ўцэджваюць у шведа ўсю абойму. Зусім іншы каленкор атрымаецца.

— Падумаю,—сказаў ён.

Мне не спадабалася, як ён гэта сказаў. Але я быў упэўнены, што ён пераробіць канец. Калі не, яго раскалашмацяць ушчэнт.

Потым ён правёў «бой з уласным ценем», нанёс магутны прамой правай у кішэнь курткі і ўдарыў па мне пакамечанымі жоўтымі лістамі, спісанымі алоўкам.

— Удар ніжэй пояса па тваім ахвосці,—прамовіў ён.—Не змяняй тут ні слова!

Вось табе на! Не змяняй ні слова! Я раблю чалавеку паслугу, а ён камандаваць пачынае. Я тлумачу яму, як лепш закончыць гангстэрскую гісторыю, а ён мяне хрысціць. Прапаную надрукавацца ў «Бульвардзье», а ён называе часопіс ахвосцем. Магчыма, ён і ведае мой часопіс, падумаў я, але не ведае мяне, каб кідаць у твар мне такія словы.

Я зірнуў на назву: «Сапраўдны іспанец». Гучыць нішто сабе. Луіс Бромфілд, таксама малады пісьменнік, які жыве ў Парыжы, напісаў для нас штуку пад назвай «Сапраўдны француз». Луіс напісаў ужо другую кнігу, на якой ён здорава зарабіў. Яму далі за яе Пулітцараўскую прэмію. Атрымліваецца, астатнія «левабярэжныя» пісьменнікі таксама ўсыплюць Эрнесту, падумаў я.

— Пародыя на Бромфілда?
— Як у ваду глядзеў,—адказаў ён.—Я дам яму чосу.

Вось і цудоўна, прыкінуў я. Пародыі нам дарэчы. Але нічога не сказаў. Проста піхнуў «Іспанца» ў кішэнь, не чытаючы. Спатрэбіцца калі-небудзь—загарнуць сёе-тое. Я ўсё яшчэ не дараваў яму знявагі. Ці не пераменіць пласцінку? Яшчэ куфаль, і я раскажу гэтаму нахабніку, як лепш выкарыстаць яго абгортачныя лісткі. Я прыклеіў сабе абыякавую ўсмешку бармена.

— А ты быў у мяне на Манмартры?
— Не,—прызнаўся ён.
— Гэта чаму ж?
— Вельмі ўжо там высока.
— Што, Манмартр?
— Не, цэны,—сказаў ён.
— Заходзь, калі захочаш,—сказаў я.—Будзеш госцем. І дзяўчыну сваю прыводзь.
— Дзякую,—сказаў ён.
— «Хвост» у цябе ёсць?—спытаў я.
— Што?
— «Хвост»,—паўтарыў я.

Вось дык штука. Піша кніжку пра Парыж, а не ведае, што такое «хвост». «Хвост» на парыжскім арго азначае смокінг, растлумачыў я. У мяне трэба быць прыстойна апранутым. Гэта не якая-небудзь левабярэжная піўнушка. Мы адчыняемся апаўночы, а зачыняемся, калі зноў узыходзіць сонца. Хай прыкіне, што гэта за прытон. Хай зразумее, што ў нас куды лепш, чым у шыкоўным чыкагскім «Хінкі Дзінкс».

— У нас на падлозе няма пілавіння,—сказаў я.
— Шкада,—адказаў ён.—Дзеля старой дружбы даю табе перадышку. Я ніколі не разгуляюся, калі працую. Але калі кончу кнігу, я зайду да цябе. Разам з лэдзі Брэт.
— З якой лэдзі?—перапытаў я.
— Лэдзі Брэт,—сказаў ён.—Яна са старадаўняга англійскага роду. Тытул і ўсё такое... Ты яе не ведаеш.
— Ах, вось як!
— Я захаплю з сабой і экземпляр кнігі, з аўтографам,—дадаў ён.
— Дзякую,—сказаў я.

*) гарэлка (франц.)

Я расплаціўся і выйшаў з бара. І толькі тут зарагатаў. Дома ў мяне паўнюткі чамадан бестселераў з аўтографамі славутых аўтараў: «Галоўная вуліца» Сінклера, «Зялёны капялюш» Майкла Арлена, «Вялікі Гетсбі» Скота Фітцджэральда і куча іншых кніг. А гэтая зялепуха збіраецца ашчасліваць мяне сваім опусам і аўтографам! Мала таго, ён хоча прыдаць бляск маёй установе, прывёўшы з сабой... як яе там? З таго часу, як да мяне пачаў заходзіць прынц Уэльскі, якіх толькі «лэдзі» я не бачыў. Ну, пачакай жа, падумаў я. Што ты скажаш, калі ўбачыш, як па-свойску я размаўляю з вяршкамі англійскай арыстакратыі. Лэдзі Маунт-батэн аднойчы параўнала танцавальную залу майго клуба з ілюстраваным варыянтам «Кнігі дваранства». Герцаг Манчэсцерскі—мой пастаянны наведвальнік. Усім ім вельмі падабаецца мой джаз «Шчаўкунчык» і аргенцінскі аркестр, што выконвае танга, якое толькі што ўвайшло ў моду. Спадзяюся, што хоць апавяданне нішто сабе. Патрабаванні ў «Бульвардзье» былі высокімі ў адным сэнсе, хоць і нізкімі ў іншым. Узяць, напрыклад, Сінклера Льюіса. Атрымаў Нобелеўскую прэмію, а ў «Бульвардзье» ўсё не мог прабіцца. Мы двойчы адхілялі яго рэчы. Для нас яны былі занадта правінцыяльнымі.

Седзячы ў таксі, я прыгадаў Льюіса. Адзінае яго падабенства з Хэмінгуэем у тым, што ён не супраць выпіць. А ўвогуле—цудоўны хлопец. Ён у нас усё-такі надрукаваўся. У той самы раз, калі яго баечку ў пяць тысяч слоў я скараціў да тысячы. Звар'яцеўшы ад радасці, ён скупіў паўтыража і разаслаў сваім сябрукам у Штаты. «Мне ніколі не ўдавалася пісаць сціспа»,—гаварыў ён, бывала. Любата-хлопец. Такому пісьменніку не шкада і дапамагчы, думаў я.

«Сапраўднага іспанца» я паказаў Гвіну і сказаў, што Хэмінгуэй—другі Бромфілд. Прачытаўшы апавяданне, Гвін ашалеў і схапіў сіні алоўак. «На чым ён піша? На сценах прыбіральні ці што?» Я зазірнуў цераз плячо і ўбачыў два непрыстойныя словы. Вядома, гэтыя словы ў рэдакцыі раз-пораз даводзілася чуць, але не бачыць.

— А што?—сказаў я.—Па-мойму, напісана без памылак.

А яшчэ не дазваляе ні слова змяняць, падумаў я. Гвін падсунуў лісткі Артуру Мосу. Артур быў рэдактарам. Ён сказаў, што ведае Хэмінгуэя, і ні кроплі не здзівіўся тым словам. Ён прачытаў апавяданне, перагарнуў апошнюю старонку.

— А дзе канец?—спытаў ён.—Ты напэўна згубіў старонку.

— Тут усё, што ён мне даў,—сказаў я.

Пасля прачытаў сам. Незакончаная сімфонія, падумаў я. Але можа, аўтар так і задумаў. Услых жа я сказаў:

— Гэта навейшы літаратурны стыль. Акрамя таго,—дадаў я,—мы з ім землякі.

— О'кэй,—адказаў Мос.—Дапішы канец, і мы кінем гэтую штуковіну на сорак другую старонку.

— Чур, не я. Я абяцаў не мяняць ні слова.

— А навошта табе мяняць?—сказаў Артур.— Дадай адзін абзац, і толькі. А калі ён пачне вякаць, вазьму віну на сябе. Праз гадзіну матэрыял трэба здаваць у друкарню. У такім выглядзе друкаваць нельга. Штуковіна не шэдэўр, і ты гэта ведаеш.

Я гэта ведаў. Але я ведаў і Хэмінгуэя. Што ж, вырашыў я, калі ён не даў мне ўсю рэч, цалкам, гэта не мая віна. Акрамя таго, Мос згадзіўся прыняць віну на сябе. Мне хацелася ўткнуць чытво ў гэты нумар, а ў такім выглядзе ўражання яно не зрабіла б.

І я дапісаў канец. Я падладзіўся пад стыль Эрнеста, і ўсё атрымалася шыкоўна. З маёй канцоўкай апавяданне выйшла так сабе. Пасля мы крыху пабалбаталі наконт яго кнігі. Я вырашыў, што Эрнесту гэта будзе прыемна.

Але, аказваецца, я памыляўся. Не паспелі мы пусціць часопіс у продаж, як ён на нас наваліўся. З крыкам уварваўся ў рэдакцыю і, зіркаючы вачыма, заявіў, што я сапсаваў яго апавяданне. Я пачаў божыцца, што не памяняў у ім ні слова, а сам адчуваў сябе, як той самы швед у другім апавяданні Хэмінгуэя. Потым зірнуў на Моса. Выручыць ён мяне, як абяцаў?

Мос, або Малыш Абнер, як мы яго называлі, ростам быў менш пяці футаў і важыў 123 фунты. Хоць ён і быў не столькі магутным, колькі «мосным», у смеласці яму адмовіць было нельга. Ён адкінуў галаву назад, каб бачыць нашага пагромшчыка, але глядзеў яму проста ў вочы.

— Ноткай ніжэй, хлопча,—сказаў ён. — Я рэдактар, і апавяданне тваё я зрабіў лепшым. І тут ты нічога не зробіш.

Эрнест здзівіўся. Ён не верыў сваім вушам. Нахіліўшыся, каб лепей разгледзець Моса, ён ускрыкнуў:

— А вось зараз я табе пакажу, што я зраблю!

— Ну-ну, паспрабуй,—адказаў Артур, паднімаючыся з месца.

І тут адбылося нечаканае. Эрнест працягнуў яму сваю лапу. Хоць я так і думаў, што ён гэта зробіць.

— Руку, браток,—прамовіў ён.—Ты не з палахлівых.

І выйшаў, нават не зірнуўшы ў мой бок. Вось табе і ўдзячнасць, падумаў я. Спрабуеш дапамагчы хлопцу, а ён і дзякуй не скажа. Паказваеш, як трэба пісаць, а ён крычыць, што апавяданне сапсавалі. Што ж, ідзі да сваёй Гертруды Стайн, ліха з табой. Гатовы пабажыцца, што кніжку тваю трэба было б перарабіць яшчэ не так, як тваё апавяданне.

Майго новага байца я не бачыў месяцы са два. Чуў толькі, што ён сядзіць пад замком і вычытвае гранкі свайго опуса. Але аднойчы ўначы ён уваліўся да мяне. Згледзеўшы яго, я адразу ж убачыў, што ён усё яшчэ злуецца на мяне за рэдагаванне. Сяброўка яго была—страхоцце. З усіх жанчын свету толькі адной было забаронена паяўляцца ў маёй установе. Менавіта яе ён і падчапіў. Як яна праскочыла міма майго нядрэмнага вока Мак-Класкі (ён жа «Крывы»),—розуму не дабяру. Напэўна, прашмыгнула з таго боку, дзе ў яго няма вока. Як пусцілі яе на гэты бераг Сены, засталося для мяне таксама загадкай. Як і вест-сайдскім бадзягам, якім забаранялі перасякаць раку Чыкага, гэтай красуні нельга было паяўляцца на гэтым баку Сены, на Манмартры. Натуральным яе жытлом быў левы бераг. Гэта была «тая» дзяўчына.

Супраць яе маральнага аблічча я нічога не меў. Урэшце, у мяне тут не царква. Яе манеры, адзенне —вось што пярэчыла маёй натуры. Гаварылі, што яна з прыстойнай англійскай сям'і, якая выплачвала ёй нейкую падкормку, загадаўшы, каб яна не паяўлялася ў межах Брытанскіх астравоў. Як толькі яна перасякала Ламанш, падкормка яе канчалася. Яна «працавала» ў кабачках і звычайна насіла завэцганыя тэнісныя чаравікі і мужчынскія порткі. Гэта было задоўга да таго, як іх сталі называць штанамі і сярод прыстойных жанчын стала модна іх апранаць.

І вось яна з Хэмінгуэем. Выкарыстала яго замест тарана, каб прабіць дзверы. Што ж, так мне і трэба. Афіцыянты былі ўжо сабраліся вытурыць яе, але я падаў ім знак. Эрнест выглядаў нішто сабе. Амаль цывілізаваным. Апрануў смокінг і нават пагаліўся. А, можа, гэта ён побач з ёй так прыстойна выглядаў? Эрнест намерыўся было прадставіць яе па ўсіх правілах прыдворнага этыкету. Але дзяўчына падняла руку, быццам хапаючыся за колца ў аўтобусе, і з размаху ляпнула па маёй далоні.

— Рада вас бачыць тут,—сказала яна.

— Гэта я рады вас тут бачыць,—адказаў я.

— Рады, што ты знаёмы з лэдзі Брэт,—падхапіў ён.

Лэдзі Брэт! Дык вось каго ён меў на ўвазе! Гэта нешта для мяне новае. У яе было нямала іншых мянушак, а такую я чуў упершыню. У кабачках ля Сабора яе звалі «Графіняй».

Я падміргнуў метрдатэлю, і ён паказаў Эрнесту месца ў заднім радзе, за калонай. Дзяўчына ўхапілася за маю руку. Гэта дало мне магчымасць пагаварыць з ёй як мужчына з мужчынам. Калі яна будзе трымацца ў баку ад танцавальнай пляцоўкі і не стане прыставаць да гасцей, ёй дазволяць на гэты раз застацца.

Разумеецца, я не асмеліўся сесці побач з імі. Мне трэба было клапаціцца аб сваім становішчы ў грамадстве. Бо астатнія дзеўкі вырашылі б, што гэтая збіраецца адбіваць у іх хлеб. А паўстання сярод сваёй рабочай сілы я не хацеў. Таму я сказаў, што вельмі заняты, і загадаў Крываму наглядаць за ёй, але не лезці ў спрэчкі з Хэмінгуэем. Крывы ўжо страціў адно вока ў часе бойкі з Джэкам Джонсанам, і мне не хацелася, каб ён пазбавіўся і другога.

Я быў уражаны зусім прыстойнымі паводзінамі гэтай асобы. Праўда, адзін раз я пачуў віск і грукат у іх баку і кінуўся туды на злом галавы. Але аказалася, што гэта не памірылася са сваім «катом» нейкая свецкая дама, адна з нашых пастаянных кліентак.

Госці мае пайшлі ў гадзін пяць, выжлукціўшы бутэлек пяць шампанскага. Так ён са мной разлічыўся. Я нічога не меў супраць. І ўсё ж я крыху крыўдаваў на яго за тое, што ён прывёў сюды гэтую блудніцу. Я праводзіў іх да гардэробнай. Там нас ніхто не мог убачыць. Развітваючыся, Эрнест выцягнуў сваю кніжку. Я зусім забыўся на яе. Але калі ўбачыў назву: «І ўзыходзіць сонца», адразу ўспомніў. Пакінуў-такі сваю назву.

— Слухай, ты дзе знаходзішся? — сказаў я. — У Атлантык-Сіці? Ты ж ніколі не бачыш сонца. А гэты яркі румянец на тваім твары—зусім не сонечны загар. Гэта кабацкая смуга. Табе трэба было б памяняць назву, як я тады гаварыў.

Ён, відаць, вырашыў, што я пацяшаюся над ім, але ў бутэльку не палез. Толькі ўсміхнуўся. Ён штосьці напісаў на шмуцтытуле і працягнуў кніжку мне. Я прачытаў: «Што значыць імя? Ружа пахне ружай, хоць ружай назаві яе, хоць не». Зноў панёс глупства ў стылі гэтай Гертруды Стайн, падумаў я. Я пагартаў кніжку, робячы выгляд, што зацікавіўся ёю. Два словы кінуліся мне ў вочы. «Лэдзі Брэт!»—ускрыкнуў я.

— Яна самая,—сказаў ён.—Так я назваў сваю графіню ў кнізе. Яна мая гераіня.

— Гераіня чаго?

— Рамана «І ўзыходзіць сонца», — сказаў ён.

— Вось як! — здзівіўся я.

— Няблага правялі час, — заўважыў Эрнест.

— Мы квіты, — сказаў я.

— Да пабачэння, — прамовіла яна.

— Бывайце, — адрэзаў я.

Мілы божа, падумаў я. Як можна быць такім наіўным? Ну і гераіню ён сабе адшукаў! Як жа, буду я чытаць пра яе кніжку. Ды пасля такога яму нельга будзе на вочы нікому паказвацца ў Оўк-Парку. А ў Парыжы яго засмяюць. А можа, ён проста пажартаваў? Я зноў разгарнуў кніжку і прагледзеў яе. Сапраўды, гэта... лэдзі была там. У натуральную велічыню. Ну, ведаеш, падумаў я, матч гэты твой — ніякі не паўфінал. Гэта фінал. Прычым, з вялікай літары. Усё. Амбец.

І ўсё ж было ў ім нешта мілае, прыцягальнае. Узяць, напрыклад, гісторыю на Зімовым веладроме. Мне надарылася быць там у часе спаборніцтваў па боксе, якія наладжваліся там штотыднёва. Я сядзеў у першым радзе ля самага рынга, з дзвюма сімпатычнымі дзяўчынамі-амерыканкамі. Тут да мяне падышоў адзін здаравенны ідыёт, з якім мы калісьці пасварыліся. Чамусьці я не пазнаў яго вушэй, якія нагадвалі два качаны кветкавай капусты. Быў якраз перапынак, а гэты тып, відаць, выконваў абавязкі секунданта: у яго была мокрая губка. Я разгублена падаў яму руку. Ён падаў сваю. Але замест таго, каб павітацца, ён тыцнуў мяне губкай у фізіяномію і пачаў усяляк абзываць мяне.

Натоўпу гэта спадабалася. Для разявак гэта было нешта накшталт камедыі Чарлі Чапліна. Я быў «джэнтэльменам» у смокінгу, якому дае прыкурыць зух-хлопец. Я ўскочыў на ногі і рынуўся на гэтага тыпа. Але тут два бугаі кінуліся на мяне. Трое на аднаго. Многія з тых, што сядзелі ў першым радзе, ведалі мяне, але заступіўся толькі адзін. І вы думаеце хто? Вядома, месье Хэмінгуэй. Ён вырас як з-пад зямлі. З усмешкай да вушэй. Але ён не думаў жартаваць. Схапіў абодвух вахлякоў за рукі і павалок, быццам слізнякоў.

— Выціскай ваду з Губкі, — сказаў ён. — А я займуся гэтымі падонкамі.

Мне толькі гэтага і трэба было. Я выхапіў з рук тыпа губку і ўвайшоў у клінч. Але дабрацца да яго не паспеў. Паявіліся два жандары, якія ўзялі на сябе абавязкі суддзяў. Яны разнялі нас і расцягнулі па кутках. Але, улучыўшы момант, я ўсё-такі ўцадзіў яму. Кулак мой, ледзь не зачапіўшы жандара, пацэліў Вушастаму прама ў твар. Натоўп ухвальна загуў. Жандары зарагаталі, а я пакланіўся галёрцы. Але калі я павярнуўся, каб падняць руку Хэмінгуэя, высветлілася, што ён знік. Гэтак жа раптоўна, як і паявіўся.

Што за дзіўнае спалучэнне бязмежнай храбрасці і сціпласці, падумалася мне. Не пабаяўся прыйсці сябру на выручку ў прысутнасці цэлай масы народу. А справа ж магла дайсці і да бойкі, варта было толькі каму-небудзь з іх клікнуць сваіх сябрукоў. І вось, калі небяспека мінула, ён знік. Дзіўны хлопец, што ні кажы. Гавораць, калі італьянцы ўзнагародзілі яго, давялося аднесці медаль дадому. Ён баяўся апынуцца перад строем падраздзялення. Смерці не пабаяўся, а хвалы спалохаўся. Дзяўчаты гаварылі, што ён кульгае. Яшчэ б — з металічнай каленнай чашкай і сотняй асколкаў у целе! Але гэта яго не спыніла. Вось натурка!

Само сабой, я быў яму ўдзячны. Увесь вечар думаў аб тым, што адбылося. І Губка, які ўсчаў бойку, таксама пра гэта думаў. І люта пазіраў на мяне. Жарты з ім былі кепскія. Мы з ім моцна-такі пасварыліся, і ён абяцаў набіць мне морду.

Калі спаборніцтвы закончыліся, я захваляваўся. Вельмі ж дарэчы быў бы цяпер тут мой анёл-абярагальнік. Я загадаў сваім дзяўчатам ісці прама да машыны, калі што-небудзь здарыцца, і чакаць мяне там. У штурханіне каля выхаду я адчуў, што за мною хтосьці ідзе. Запаволіўшы крок, я азірнуўся. Так, мой анёл быў тут як тут. І па-ранейшаму ўсміхаўся.

— Топай, топай, — сказаў ён. — Я прыкрываю цябе з тылу.

Вось гэта сябра, расчуліўся я. Не ведаю, які з яго пісьменнік, толькі валасоў на яго грудзях хапае. Ён праводзіў мяне і дзяўчат да машыны, і мы паехалі. Я пазнаёміў яго са сваімі сяброўкамі. І тут жа быў ашарашаны.

— Скажыце, вы не той самы Хэмінгуэй, які напісаў «І ўзыходзіць сонца»? — у адзін голас вымавілі яны.

— Быў грэх, — сказаў ён.

— Мы абедзьве чыталі вашу кнігу і лічым, што яна выдатная.

І тут іх быццам прарвала. Наконт брунеткі я не хваляваўся. Яна была на рэзерв. Мяне непакоіла рыжая, якая надта ж ужо захаплялася Эрнестам. Седзячы побач са мной, яна раз-пораз абарочвалася да яго. Я ўзрадаваўся, калі ён адшыў яе. Ён тыцнуў мяне пальцам у спіну.

— Ну, як спадабалася мая кніжка?— спытаў ён.

— Ну, думаю, дарэмна лічыш, што я буду хваліць цябе толькі таму, што ты выратаваў мне жыццё. Скажу табе прама ўсё, як ёсць.

— Я не змог прачытаць нават радка.

— Слухай... — перапыніў ён.

— Ну што? — спытаў я.

— А ты варушыш вуснамі, калі чытаеш?

— Не, — прызнаўся я.

— Вось іменна — сказаў ён.

— Што іменна?

— А тое. Я пішу для тых, хто варушыць вуснамі.

— Ах, вось яно што, — сказаў я.

— Я баяўся: дзяўчаты мае жываты надарвуць ад рогату. Але сам я не смяяўся. Кепскі густ, вырашыў я. Я хацеў растлумачыць Эрнесту, чаму не мог прачытаць кнігу. Назапасіў порцыю здаровай крытыкі. А ён жартачкамі адбіваецца. Мала таго. Мне даводзіцца сядзець і слухаць словы захаплення сваіх сяброўак. Ім хацелася ўсё ведаць пра лэдзі Брэт. Што гэта за персанаж? Ці сапраўды яна існавала? Спыталіся б лепш пра гэта ў мяне. Я б расказаў ім сёе-тое.

Слухаючы іх ліслівыя словы, я прыкінуў, пра што гаварылася ў кніжцы. Аднаго хлопца паранілі на вайне. Ніжэй спіны. Да таго, як гэта з ім здарылася, ён быў каханкам лэдзі Брэт. А калі ён вярнуўся, больш не здатны ні на што, яна ўсёроўна любіла яго і па-сапраўднаму жыла з ім. Яна нават утрымлівала яго, мяркуючы па кніжцы. Суцэльная выдумка, падумаў я. Калі гэтая, прашу прабачэння, лэдзі штонебудзь і трымала пры сабе, дык гэта рэшту, калі ёй хто-небудзь плаціў больш, чым два долары. На ўзвышанае каханне яна была здольна не больш, чым я. Потым, наколькі я зразумеў, дзеянне перамясцілася ў Іспанію. Апісваўся бой быкоў. Гэта яшчэ сюды-туды, падумаў я.

Я кіпеў ад абурэння гэтай гадзінай, якая прыгрэлася ў маёй машыне.

Памятаецца, я нахіліўся і шапнуў на вуха рыжанькай, што Хэмінгуэй і ёсць той самы хлопец, якога паранілі ў адно месца ў кніжцы. Я ўжо не помню, ці сказаў ёй пра тое, што ён паранены яшчэ і ў калена. Я вырашыў, што ў каханні і на вайне ўсе сродкі прыдатны.

Працяг у наступным нумары.

З пошты ЛіМа

## А ГАЗЕТЫ НЕ ПРЫХОДЗЯЦЬ...

Я жыву далёка ад Беларусі — на Паміры. Працую тут на высакагорнай гідраметэастанцыі. Але сувязей з роднай старонкай не губляю, заўсёды цікаўлюся, як жывуць мае землякі, радуюся іх поспехам, іх здабыткам.

Пра ўсё гэта я даведваюся з пісьмаў, кніг, газет, якія атрымліваю з Беларусі. Я даўні чытач і падпісчык «Літаратуры і мастацтва». Кожны нумар газеты для мяне, нібы подых роднага паветра. Але... Вось тут пачынаецца гэтае «але». «ЛІМ» я атрымліваю вельмі нерэгулярна. Край наш суровы, доўга стаіць нялётнае надвор'е і цяжка перадаць, з якой нецярплівасцю чакаеш самалёт з поштай.

Нарэшце, прыляцеў. Разбіраеш газеты, і на сэрца кладзецца крыўда. Вось доўгачаканы «ЛІМ». Адразу тры экземпляры аднаго нумара. Гэта было б няблага, калі б... экземпляры не з'яўляліся кампенсацыяй чарговых нумароў газеты. За 1-ым нумарам «ЛІМа» за гэты год я атрымала чацвёрты, потым сёмы, дзесяты (адразу аж чатыры экземпляры) і г. д.

Відаць, на сартыроўцы і рассылцы газет сустракаюцца абыякавыя людзі, людзі з халоднымі рукамі. Эх, каб ведалі яны, з якой прагнасцю мы тут чакаем кожную вестачку з роднай зямлі.

Вольга БУЛАТАВА.

